● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў

5 верасня 1996 г.
чацвер, № 220
(23023)





# ЗВЯЗДА

*ГРОШЫ*

## ВОСЕНЬ... ЛІСЦЕ ПАДАЕ. І БЕЛАРУСКІ РУБЕЛЬ ТУДЫ Ж

**Канец жніўня і пачатак верасня ўнёс ажыўленне на рынак наяўнай валюты. Падагнаны долар спачатку пераадолеў 17-тысячны рубеж, а затым хуткімі тэмпамі пачаў набліжацца да 18-тысячнай мяжы. Утаймаваць свавольную СКВ, што з поспехам удавалася на пэўным узроўні да гэтага часу, пакуль не ўдаецца. Звязваюць гэта, у прыватнасці, з вялікім насычэннем рынку беларускімі рублямі, і, як гэта бывае кожны год, з фінансаваннем сяла ў сувязі з уборачнай кампаніяй.**

На нябіржавым міжбанкаўскім валютным рынку долар дасягнуў больш высокіх поспехаў. Каціроўкі яго з зайздросным пастаянствам раслі і ўчора, напрыклад, курс куплі складаў ад 18.200 да 18.600 беларускіх рублёў за долар; продаж дасягаў лічбы ў 18.700 беларускіх рублёў за долар. Фінансавыя кампаніі прадавалі цвёрдаканверсоўны за безнаяўныя рублі па курсу 18.900 рублёў за долар.

Калі браць сітуацыю, якая склалася ў абменных пунктах, дык што датычыцца курса мінімальнай куплі долара, то ён складаў 16.997 рублёў, максімальны — 17.170. Прадавалі банкі наяўную СКВ (калі ўзяць сярэдні курс) па 17.337 рублёў за долар. Максімальны курс продажу «завіс» на лічбе 17.800 рублёў.

Нягледзячы на імклівае павышэнне курса долара, каля абменных пунктаў зацішша. Народ не спяшаецца здаваць СКВ, так што ў валютчыкаў у дадзены момант пэўнае «беспрацоўе». Як удалося высветліць, хлопцы ахвотна скупляюць наяўныя долары па курсу 17.200 рублёў. Апустошваць кішэні і скідваць валюту яны не спяшаюцца, што сведчыць хутчэй за ўсё аб далейшым павышэнні вартасці «бакса». Пры жаданні, дарэчы, у іх можна набыць долар па курсу 17.700—17.800 рублёў за адзін долар.

Па прагнозах некаторых фінансістаў, без афіцыйнага ўмяшання ў сітуацыю, якая склалася на рынку наяўнай валюты, 18-тысячную мяжу долар пераадолее ў лічаныя дні. Магчымасці беларускага рубля, ва ўсякім разе, бязмежныя.

**Ігар ШЧУЧЭНКА.**

## *Адным сказам*

✧ За паўгода **знайшлі ў Расіі работу** 10,1 тысячы чалавек — грамадзян Беларусі.

✧ У рэспубліцы за студзень—ліпень зарэгістравана **338 выпадкаў вымагання** (у 1995-м — 353): у Мінску — 95, Мінскай вобласці — 52, Брэсцкай — 22, Гродзенскай — 35, Віцебскай — 40, Магілёўскай — 51, у Гомельскай — 41, на транспарце — 2.

✧ Паводле афіцыйных даных, пры **аварыі**, якая адбылася на **нафтапроваддзе «Дружба»** 27 жніўня, вылілася каля 50—60 тон нафты.

✧ Пасля правядзення грашовай рэформы **сярэдняя зарплата на Украіне** складзе 132 грыўны, **сярэдняя пенсія па ўзросту** — 45 грыўнаў (прыкладны курс грыўны да долара ЗША складае 1,75—1,76 грыўны за 1 USD).

✧ Пры асобным правядзенні давыбараў у Вярхоўны Савет і рэферэндуму **спатрэбіцца больш як 51,5 мільярда рублёў:** 19,63 мільярда — на давыбары і 32 мільярды — на правядзенне плебісцыту.

✧ У Брэсцкай вобласці зарэгістравана **19.537 алкаголікаў**, сярод якіх **1908 жанчын** і **16 падлеткаў** ва ўзросце да 16 гадоў.

✧ У калгасе «Радзіма» Івацэвіцкага раёна адна **ваўчыца загрызла** на працягу мінулага месяца 15 кароў.

✧ 68 працэнтаў юрыдычных асоб і 45,8 працэнта прадпрымальнікаў дапусцілі **парушэнне падатковага** заканадаўства, прычым камерцыйныя структуры складаюць больш за палову выяўленых парушальнікаў.



*ЦЯЖКІЯ КРОКІ СТАРАСЦІ.* Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.

## *АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА:* «Я ГАТОВЫ ДА КАНСТРУКТЫЎНАГА СУПРАЦОЎНІЦТВА»

**4 верасня Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка сустрэўся з групай дэпутатаў Вярхоўнага Савета па іх просьбе. У гэты дзень кіраўнік дзяржавы змяніў намечаны загадзя графік сваёй работы, перанёсшы некаторыя мерапрыемствы на больш позні тэрмін, падкрэсліўшы тым самым, што надае вялікае значэнне маючаму адбыцца дыялогу з заканадаўцамі. У сустрэчы прынялі ўдзел больш як 80 парламентарыяў.**

Як адзначыў у гутарцы з карэспандэнтам БЕЛТА перад пачаткам нарады дэпутат Анатоль Малафееў, ён спадзяецца, што сустрэча пасадзейнічае выпрацоўцы разумных рашэнняў па выхаду рэспублікі з крызіснага стану. Пры гэтым дэпутат падкрэсліў, што тут Прэзідэнта і яго калег-дэпутатаў аб'ядноўвае галоўнае — гэта клопаты аб людзях, хоць у кожнага можа быць свая пазіцыя і свая асабістая думка.

«Сапраўдныя палітыкі заўсёды павінны шукаць кампраміснае рашэнне», — падкрэсліў таксама перад сустрэчай і намеснік старшыні Камісіі па міжнародных справах Леанід Рачкоў.

Аб тым, што гэта сустрэча мае вельмі важнае значэнне, заявіў у пачатку свайго выступлення і Аляксандр Лукашэнка. Гэты факт, адзначыў Прэзідэнт, сведчыць аб тым, што «ў парламенце ёсць магутная і даволі шматлікая група дэпутатаў з цвярозым розумам, якія разумеюць складанасць сітуацыі і здольныя ў гэты важны момант адкінуць свае амбіцыі і якія ў стане разабрацца ў працэсах, што адбываюцца ў грамадстве». Гаворачы аб сваёй рабоце ў беларускім парламенце мінулага склікання, Аляксандр Рыгоравіч адзначыў, што неаднаразова назіраў, як палітычныя сілы маніпуліравалі дэпутатамі, што і прывяло да развалу вялікай дзяржавы.

Параўноўваючы цяперашнюю палітычную сітуацыю з той, што была ў пачатку дзевяностых, Аляксандр Лукашэнка падкрэсліў, што паявілася істотнае адрозненне — вышэйшая выканаўчая ўлада ў асобе кіраўніка дзяржавы не дазволіць сёння ўкінуць краіну ў бездань хаосу і процістаяння, будзе выступаць гарантам стабільнасці і парадку. У сувязі з гэтым асаблівую ўвагу ў сваім выступленні Прэзідэнт удзяліў пазіцыі членаў Прэзідыума Вярхоўнага Савета — спікера Сямёна Шарэцкага, яго намеснікаў Васіля Новікава, Генадзя Карпенкі і шэрага іншых дэпутатаў, дзейнасць якіх садзейнічае ўзмацненню канфрантацыі паміж выканаўчай і заканадаўчай галінамі ўлады. Аляксандр Лукашэнка напомніў прысутным, што ў свой час, сустракаючыся з прадстаўнікамі розных фракцый, ён вылучаў шэраг прапаноў, накіраваных на плённае супрацоўніцтва Прэзідэнта і Вярхоўнага Савета, у тым ліку прапаноўвалася і правядзенне штоквартальных рабочых сустрэч з парламентарыямі. І калі такога супрацоўніцтва не адбылося, то гэта віна не Прэзідэнта, а некаторай часткі дэпутацкага корпуса.

«Я заўсёды быў гатовы працаваць з вамі і прадстаўляць парламенту неабходную інфармацыю», — сказаў Аляксандр Лукашэнка.

Але ці часта падтрымлівалі Прэзідэнта самі парламентарыі? Дастаткова ўспомніць вета Прэзідэнта на шэраг прынятых Вярхоўным Саветам законапраектаў, якія не маглі быць рэалізаваны па прычыне адсутнасці грашовых сродкаў. У большасці выпадкаў, атрымліваючы закон на дапрацоўку, дэпутаты пераадольвалі гэта вета канстытуцыйнай большасцю, не задумваючыся аб тым, адкуль будуць узяты сродкі.

Прыводзячы яшчэ шэраг падобных прыкладаў, Прэзідэнт канстатаваў: «Ідзе ціхае шальмаванне тых, хто робіць канкрэтную справу — Прэзідэнта, яго акружэння і ўрада». Што ж датычыць мітынговых страсцей і заклікаў аб адхіленні кіраўніка дзяржавы ад улады, то, паводле слоў А. Лукашэнкі, улада проста так не аддаецца. Тым больш, калі ўпершыню ў гісторыі краіны кіраўніком дзяржавы па волі народа стаў адзін з яго прадстаўнікоў, чалавек, які жадае сумленна працаваць дзеля сваіх выбаршчыкаў.

«Я перакананы, што народ падтрымае мяне, нават калі нейкая частка дэпутатаў будзе супраць», — сказаў Аляксандр Лукашэнка. Пры гэтым ён падкрэсліў, што нягледзячы на цяжкасць сітуацыі, Беларусь не стала ні перад кім на калені, і ён як кіраўнік дзяржавы зробіць усё неабходнае для паляпшэння дабрабыту людзей, не дапусціць, каб у рэспубліцы паўтарыліся маскоўскія падзеі 1993 года. У той жа час Прэзідэнт адзначыў, што не з'яўляецца прыхільнікам сілавога націску і лічыць, што, робячы свой выбар, дэпутаты павінны кіравацца сваім сумленнем.

Кіраўнік дзяржавы напомніў аб указах, што былі ім падпісаны ў апошні час: аб замарожванні цэн, аб выплаце запазычанасці па зарплаце да 20 кастрычніка, аб блоку рашэнняў па фінансаванню будаўніцтва жылля для гараджан і жыхароў вёскі і іншых.

Ацэньваючы эканамічную сітуацыю, Прэзідэнт адзначыў, што ў першым паўгоддзі — і гэта ўпершыню за апошнія гады — быў дасягнуты няхай невялікі, усяго 0,2 працэнта, але ўсё ж рост унутранага валавога прадукту ў супастаўных цэнах. Аднак паводле яго ацэнкі, рост УВП за апошнія восем месяцаў павысіцца ў цэлым да 2 працэнтаў, паколькі будуць улічаны многія неапрыходаваныя тавары. «Ёсць абнадзейлівыя тэндэнцыі, якія сведчаць аб тым, што дзяржава правільна ўмешваецца ў рэгуляванне эканомікай», — адзначыў у сувязі з гэтым Прэзідэнт.

Аляксандр Лукашэнка адказаў на шматлікія пытанні і пажаданні дэпутацкага корпуса. Асноўная ўвага ў гэтым дыялогу была ўдзелена праблемам сацыяльна-эканамічнага і палітычнага развіцця краіны. Адказаў кіраўнік дзяржавы і на шэраг пытанняў, якія датычаць рэферэндуму, новай Канстытуцыі. Гаворачы аб новым Асноўным законе, Прэзідэнт падкрэсліў, што неабходнасць яго прыняцця

(Заканчэнне на 2-й стар.)

## УКАЗ

### Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь

№ 348

**Аб прыцягненні да адказнасці службовых асоб, вінаватых у парушэннях пры стварэнні ліцэя № 1 г. Гродна**

За грубае парушэнне службовых абавязкаў, якое праявілася ў ігнараванні думкі грамадзян Рэспублікі Беларусь пры прыняцці і рэалізацыі рашэння Гродзенскага гарвыканкома ад 20 снежня 1995 г. № 653 аб стварэнні ліцэя № 1 на базе агульнаадукацыйнай сярэдняй школы № 27 г. Гродна, **пастанаўляю:**

1. Вызваліць ад займаемых пасад старшыню Гродзенскага гарвыканкома Крупенку Г. А., загадчыцу аддзела адукацыі Ленінскага райвыканкома г. Гродна Маляўку Л. М., дырэктара ліцэя № 1 г. Гродна Шостка Л. Н. (пункт 1 артыкула 254 Кодэкса законаў аб працы Рэспублікі Беларусь).

2. Аб'явіць строгую вымову загадчыцы аддзела адукацыі Гродзенскага гарвыканкома Папянюк Л. П.

3. Папярэдзіць старшыню Гродзенскага аблвыканкома Дубко А. І. аб недапушчальнасці фактаў ушчамлення правоў і законных інтарэсаў жыхароў вобласці, а таксама міністра адукацыі і навукі Стражава В. І. за бескантрольнасць рэфарміравання агульнаадукацыйнай школы.

4. Гродзенскаму гарвыканкому:

забяспечыць бесперашкодную магчымасць вучням 2—4 класаў, якія вучыліся ў агульнаадукацыйнай сярэдняй школе № 27, прадоўжыць вучобу ў ліцэі № 1 па праграме агульнаадукацыйнай сярэдняй школы;

з удзелам супрацоўнікаў апарату Савета бяспекі і Міністэрства адукацыі і навукі правесці праверку захавання ўмоў конкурсу пры адборы настаўнікаў і выхавальнікаў у ліцэй № 1 і разгледзець пытанне аб адпаведнасці іх займаемым пасадам.

5. Кантроль за выкананнем гэтага Указа ўскласці на Службу кантролю Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

6. Гэты Указ уступае ў сілу з дня яго падпісання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь**
**А. ЛУКАШЭНКА.**

3 верасня 1996 г.
г. Мінск.

## ПАСТАНОВА

### Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

**Аб прамой трансляцыі па радыё і тэлебачанню пасяджэнняў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь пры разглядзе пытання «Аб правядзенні рэспубліканскага рэферэндуму ў Рэспубліцы Беларусь і мерах па яго забеспячэнню»**

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. На падставе арт. 34 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, арт. 63 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь» і ў мэтах больш поўнага асвятлення сродкамі масавай інфармацыі разгляду пытання «Аб правядзенні рэспубліканскага рэферэндуму ў Рэспубліцы Беларусь і мерах па яго забеспячэнню», Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Рэспублікі Беларусь (старшыня Кісель Р:Л.) арганізаваць прамую трансляцыю па радыё і тэлебачанню з залы пасяджэнняў Вярхоўнага Савета ў час яго абмеркавання.

2. «Народнай газеце», газеце «Звязда» апублікаваць дадзеную Пастанову 5 верасня бягучага года, а Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Рэспублікі Беларусь давесці да ведама насельніцтва аб прынятай Пастанове Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь і дні разгляду пытання па прызначэнню рэферэндума.

3. Дадзеная Пастанова ўступае ў сілу з моманту яе прыняцця.

**Старшыня Вярхоўнага Савета**
**Рэспублікі Беларусь С. ШАРЭЦКІ**

4 верасня 1996 г., г. Мінск.
№ 565-XIII

*ПАРЛАМЕНЦКІ ДЗЁННІК*

## ВЯРХОЎНЫ САВЕТ ПРЫНЯЎ РАШЭННЕ АБ АДТЭРМІНОЎЦЫ ЗАПАЗЫЧАНАСЦІ ПА ПАДАТКАХ

**Чацвёртага верасня Вярхоўны Савет Беларусі вярнуўся да пытання, якое было ўнесена Камісіяй па эканамічнай палітыцы і рэформах, аб праекце закона «Аб дапаўненнях у дзяржаўны бюджэт на бягучы год».**

Гэтае пытанне разглядалася напярэдадні, аднак па просьбе старшыні Камісіі па бюджэту і падатках, банках і фінансах Уладзіміра Башарымава, камісія якога не паспела азнаёміцца з праектам, было прынята рашэнне аб пераносе гэтага разгляду. Пасля даволі працяглай спрэчкі Вярхоўны Савет усё ж палічыў патрэбным пагадзіцца з довадамі Васіля Шлындзікава аб тым, што існуючыя запазычанасці, штрафы ці пені заціскаюць беларускія прадпрыемствы, не даюць ім магчымасці выбрацца з крызісу. В. Шлындзікаў лічыць, што ўсё роўна гэтыя запазычанасці немагчыма спагнаць у бюджэт. Як зазначыў Шлындзікаў, Мінфін не падтрымлівае гэты законапраект, бо запазычанасці склалі больш чым 5 трыльёнаў рублёў. Нарэшце дэпутаты прынялі закон, які павінен аблегчыць долю прадпрыемстваў і арганізацый, што маюць запазычанасць па падатках, якая ўтварылася да 1 ліпеня 1996 года. Ім будзе прадастаўлена адтэрміноўка па выплаце запазычанасцей, а пені па іх і штрафы будуць спісаны.

(Заканчэнне на 2-й стар.)

# ДЭПУТАТЫ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА АБ ПРАЕКЦЕ НОВАЙ РЭДАКЦЫІ КАНСТЫТУЦЫІ

**Трэцяга верасня ў Вярхоўным Савеце дэпутатам быў раздадзены праект новай рэдакцыі Канстытуцыі, які Прэзідэнт А. Лукашэнка мяркуе вынесці на ўсенародны рэферэндум. Гэтая тэма, відавочна, з'яўляецца найбольш актуальнай для нашага грамадства, таму натуральна, што яна актыўна абмяркоўваецца ў дэпутацкіх камісіях, фракцыях, у кулуарах. Карэспандэнт «Звязды» пацікавіўся ў некаторых дэпутатаў іх першымі ўражаннямі, думкамі аб прапанаваным праекце Канстытуцыі. Адзначу, што некаторыя парламентарыі, праўда, адмаўляліся ад каментарыяў, спаслаўшыся на тое, што яшчэ не паспелі дэталёва пазнаёміцца з дакументам.**

**Аляксандр БУХВОСТАЎ,** ***фракцыя «Саюз працы»:***

— У мяне ёсць адна заўвага да прапанаванага праекта Канстытуцыі: не трэба было столькі працаваць над яго стварэннем, я мог бы яго выкласці ў трох пунктах: 1. Правадыр ёсць правадыр; 2. Правадыр заўсёды мае рацыю; 3. Калі ён не мае рацыі, глядзі пункт 2... Вось і ўся Канстытуцыя. Там абсалютная ўлада Прэзідэнта, ён увасабленне нацыі. Калі хто хоча, каб А. Лукашэнка быў яшчэ на працягу 13 гадоў увасабленнем нацыі, дык я гэтага не хачу, таму я буду процідзейнічаць гэтаму ў рамках закона, каб так не атрымалася.

**— А якая рэакцыя ў парламенце будзе на гэты конт?**

— Вельмі складана сказаць, бо пасля таго, як з'явіліся подпісы дэпутатаў пад вядомай заявай, невядома, як будзе дзейнічаць самая вялікая фракцыя. Без іх нічога не атрымаецца: можаш абурацца, можаш выступаць, але без іх, вядома ж, нічога не адбудзецца, тут патрэбна адзіная воля дэпутацкага корпуса. Я думаю, што дэпутаты павінны зразумець, што ім у любым выпадку засталося працаваць да дня, калі будзе прынята гэтая Канстытуцыя, у любым выпадку гэты Вярхоўны Савет будзе распушчаны, нягледзячы на тое, што некаторыя могуць і заняць крэслы сенатараў.

**— А як вы адносіцеся да ідэі Сената і Палаты прадстаўнікоў?**

— Сенат неяк не ўпісваецца ў нашы разуменні. Я адношу сябе да прыхільнікаў моцнага парламента, парламенцкай рэспублікі, прэзідэнта як гаранта стабільнасці ўлады. Парламент, па-мойму, павінен ствараць урад, урад — кіраваць, рабіць справаздачу парламенту. Я таксама дэмакратычна перавёў бы выбары Вярхоўнага Савета на мажарытарна-прапарцыянальную сістэму, каб быў нармальны дэмакратычны працэс. А без гэтага заўтра можа з'явіцца яшчэ адзін чалавек з прэтэнзіямі на абсалютную ўладу...

**Міхаіл ГРУШЭЎСКІ,** ***фракцыя аграрыяў:***

— Думак на гэты конт шмат, але здзіўляе адно: каму патрэбна такая Канстытуцыя, калі пры цяперашняй, больш нармальнай, Канстытуцыі не выконваюцца законы, дык хіба пры новай яны будуць выконвацца? У гэтай Канстытуцыі ўлада аднаго, і не толькі аднаго Прэзідэнта, але ўлада аднаго суддзі, атрымліваецца, што суддзя прымае аднаасобнае рашэнне паводле гэтага праекта Канстытуцыі. А ўлічваючы, што суддзя не выбіраецца народам, як раней, а назначаецца, то любы суддзя можа вынесці любы прыгавор. Усе службовыя асобы назначаюцца, у нас, па сутнасці, не будзе ніякіх кантрольных органаў: Кантрольная палата прэзідэнцкая, пракуратура прэзідэнцкая... Я не бачу ў праекце гэтай Канстытуцыі нічога добрага, гэта Канстытуцыя аднаго чалавека, і можна сабе ўявіць, якія будуць наступствы.

**— Як вы лічыце, ці мае права парламент нейкім чынам паўдзельнічаць у абмеркаванні гэтага праекта, выказаць сваю думку?**

— Я лічу, што гэта бескарысна. Па закону, Прэзідэнт уносіць свой праект змяненняў і дапаўненняў...

**— Вы паходзіце ўсё-такі з сельскай мясцовасці, як там людзі настроены?**

— Вясковае насельніцтва больш падтрымлівае Прэзідэнта, але ж яны не чыталі і не ведаюць гэтага праекта Канстытуцыі. Ды яны яго і не прачытаюць, а хто прачытае — не ацэніць. Работа вядзецца толькі ў адным кірунку: падтрымаць Прэзідэнта і правесці рэферэндум, але не падтрымаць ці не падтрымаць змяненні ў Канстытуцыю... І людзі кажуць: мы яго падтрымаем, таму што яму ўсе перашкаджаюць працаваць...

**Алег РУМО,** ***фракцыя камуністаў:***

— Я лічу, што прапанаваны праект Канстытуцыі не зусім падыходзіць для нашай краіны, бо прапануецца даць вялікую ўладу аднаму чалавеку, а гэтую ўладу можна па-рознаму выкарыстаць. Гэта ў цэлым. Больш падрабязна я яе таксама прагледзеў і мяркую, што для таго, каб прымаць на рэферэндуме, яе трэба дэталёва перапрацаваць: вельмі шмат заўваг, асабліва па пытаннях аб паўнамоцтвах парламента і Прэзідэнта.

**— А хто, па-вашаму, павінен перапрацаваць гэты праект?**

— Гэтымі пытаннямі павінен займацца і Вярхоўны Савет, і вучоныя. Так хутка такое не робіцца.

**Вячаслаў КАЖАН,** ***фракцыя аграрыяў:***

— Я лічу, што нельга неабдумана прымаць такі праект Канстытуцыі, бо многія яго палажэнні ставяць пад сумненне ўвогуле дэмакратычны працэс. Трэба гэты праект не толькі прачытаць, але і добра абдумаць, абмеркаваць, Канстытуцыя — гэта такі дакумент, па якому жыве ўсё грамадства.

**—Ці ёсць у вас канкрэтныя заўвагі?**

— Мне здаецца, што ў гэтым праекце роля прадстаўнічых органаў улады практычна адсутнічае, а гэта тоіць вялікую небяспеку.

**Уладзімір КАНАПЛЁЎ,** ***фракцыя «Згода»:***

— Я ў асноўным ацэньваю гэты праект станоўча, заўвагі пры больш дэталёвым абмеркаванні ёсць. Некаторыя баяцца ўзмацнення ўлады Прэзідэнта, але я абсалютна не баюся. Я пад гэтым узмацненнем разумею не дыктатуру, дыктатуры ніякай не будзе, а ўзмацненне адказнасці ўлады на пераходны перыяд. Нават калі ўзяць прыклад, што дэпутаты Вярхоўнага Савета прымаюць нейкі дрэнны закон, які наносіць шкоду дзяржаве, то хто нясе за гэта нейкую адказнасць? Ні адміністрацыйнай, ні крымінальнай адказнасці парламент за гэта не нясе. А Прэзідэнт жа нясе адказнасць за свае рашэнні. Таму гэта будзе накладваць адзнаку на тыя рашэнні, якія ён прымае. Вы ўспомніце, як у застойныя часы не было ніякай дысцыпліны, а потым, як генеральным сакратаром стаў Андропаў, у краіне з'явіўся парадак з нізу да верху, да ўсіх былі прад'яўлены патрабаванні дысцыпліны: ад чыноўнікаў самага высокага рангу да рабочых ля станка. І за гэты час дабрабыт людзей значна павысіўся. Вось гэта тая асноўная мэта, якой хоча дабіцца Прэзідэнт. Гэта не значыць, што яму неабходна ўсямерна сканцэнтраваць уладу... Але ж хіба гэта справядліва, што Вярхоўны Савет прызначае Канстытуцыйны суд, а Прэзідэнт стаіць ні пры чым? Я лічу, што гэта няправільна, а правільна, як прадугледжваецца ў праекце новай Канстытуцыі, што палову КС прызначае Прэзідэнт, а палову — Сенат...

**— Гэта з палітычнага пункту гледжання, а з юрыдычнага?**

— Я не бачу тут нейкіх грубых юрыдычных памылак, якія не дазволілі б мне падпісаць вядомы зварот дэпутатаў. Магчыма, я з асобнымі момантамі не згодны, але я павінен усё-такі больш сур'ёзна прапрацаваць тэкст праекта.

**— Скажыце, а як, па-вашаму, трэба галасаваць чалавеку, калі ён з усім згодны, толькі адзін нейкі пункт праекта яго не задавальняе, напрыклад, аб прадаўжэнні паўнамоцтваў цяперашняга Прэзідэнта без выбараў яшчэ на пяць гадоў?**

— Я не думаю, што так яно і будзе, было ўжо шмат заўваг па гэтаму праекту, таму жыццё пакажа, які канкрэтна праект будзе вынесены на рэферэндум.

**Размаўляў Валер КАЛІНОЎСКІ.**

## УРАДЖАЙ-96

### У СЯМ'Ю «МІЛЬЁНШЧЫКАЎ»

По апошніх звестках з Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання, зараз сабраны зернебабовыя на 97 працэнтах засеяных плошчаў. Бліжэй за ўсіх да фінішнай прамой знаходзіцца Магілёўская вобласць — 99 працэнтаў. Іншыя рэгіёны маюць наступныя паказчыкі: Брэст — 97,3, Віцебск — 96,5, Гомель — 96,6, Гродна — 96,2 працэнты.

Ураджайнасць па рэспубліцы складае амаль 25 цэнтнераў з гектара. Самая высокая — на Гродзеншчыне (29,1) і Міншчыне (26,8).

Намалочана 5.780 тысяч тон. Прыемна, што пашыраюцца рады «мільёншчыкаў» (гэта значыць рэгіёнаў, дзе на зернетаках ужо знаходзіцца больш за мільён тон збожжа) — акрамя Міншчыны, якая намалаціла 1.271.800 тон, сюды ж увайшлі Гродзеншчына — 1.046.100 і Магілёўшчына — 1.022.600 тон.

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

## ЦЭНЫ

### КОЖНАЯ ЗАЦЯЖКА КУРЦОЎ БУДЗЕ КАШТАВАЦЬ НА НЕКАЛЬКІ ЦЭНТАЎ БОЛЬШ

Зацішша на цыгарэтным рынку краіны, што захоўвалася на працягу ўсяго апошняга часу, нягледзячы на паступовае павелічэнне курса долара, нарэшце таксама скончылася. Як заўсёды ў такіх выпадках, павялічыліся цэны на «паліва» замежнай вытворчасці для курцоў.

Першыя «скокі» (на 1-2 тысячы рублёў за пачак) знайшлі сваё адлюстраванне на цэнніках у камерцыйных кіёсках і магазінах (гаворка, зазначым, ідзе аб прадукцыі з акцызнай маркай) ужо ў панядзелак. У аўторак з раніцы разрыў паміж новай і ранейшай цаной павялічыўся ўжо на 3-4 тысячы рублёў за адзін пачак. Так, рознічны кошт папулярных «LM» «азадачыў» мінскіх курцоў сумай у 14—16 тысяч рублёў, «Bond» — 10.500—11.000, «Marlboro» — 21—22 тысячы «зайцоў».

Між тым, цана цыгарэт у шматлікай арміі «карабейнікаў» з пачатку тыдня засталася ранейшай. У продаж, хутчэй за ўсё, ідуць яшчэ рэшткі старых паставак. Да таго ж бабулькі, якія гандлююць з рук цыгарэтамі, — усяго толькі радавыя выканаўцы. Цэны дыктуюць дробнаалтовыя гандляры, якія і забяспечваюць «карабейнікаў» прадукцыяй. Паколькі інфармацыя аб новых цэнах ужо распаўсюдзілася сярод гандляроў, трэба меркаваць, што праз дзень-другі кошт замежных цыгарэт павялічыцца і ў «вулічным» гандлі.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

# «Я ГАТОВЫ ДА КАНСТРУКТЫЎНАГА СУПРАЦОЎНІЦТВА»

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

прадыктавана жаданнем выратаваць ад развалу краіну, пошукам найбольш аптымальнага варыянта выхаду рэспублікі з зацяжнога крызісу. Гаворачы аб двухпалатным парламенце, Прэзідэнт адзначыў, што ўсе 199 дэпутатаў цяперашняга Вярхоўнага Савета захаваюць свой статус. 110 з іх увойдуць у ніжнюю палату прадстаўнікоў, частка будзе рэкамендавана на пасады сенатараў, некаторыя заканадаўцы могуць быць запрошаны на работу ў вышэйшую выканаўчую ўладу.

Прэзідэнт яшчэ раз падкрэсліў, што гатовы канструктыўна працаваць з заканадаўцамі. «Калі будзе падтрымка Прэзідэнту з боку парламента, мы разам пераадолеем усе праблемы», — заявіў Аляксандр Лукашэнка. Аб падтрымцы пазіцыі Прэзідэнта заявілі і многія дэпутаты Вярхоўнага Савета, якія выступілі на сустрэчы.

«Калі сустракаешся з аднадумцамі і бачыш, што яны цябе разумеюць, лягчэй становіцца на душы», — сказаў на заканчэнне кіраўнік дзяржавы. Ён паведаміў, што мае намер выступіць у Вярхоўным Савеце і прадставіць дэпутацкаму корпусу праект новай Канстытуцыі. Што ж датычыць прапаноў, выказаных у ходзе гутаркі, то ўсе яны будуць узяты на кантроль. Дэпутаты парламента, якія прысутнічалі на сустрэчы, далі высокую ацэнку праведзенаму дыялогу. Як адзначыў у гутарцы з карэспандэнтам БЕЛТА лідэр фракцыі «Згода» Уладзімір Канаплёў, ён станоўча ацэньвае вынікі размовы. «Па ўсіх пытаннях, якія задавалі дэпутаты, а яны былі вельмі розныя, Прэзідэнт даў вычарпальныя адказы. Я думаю, што пераважная большасць дэпутатаў, якія тут прысутнічалі, акажуць Прэзідэнту ўсямерную падтрымку. І гэта адаб'ецца на тых рашэннях, якія будзе прымаць парламент», — падкрэсліў Уладзімір Канаплёў.

**Ларыса ЛАЗАР, БЕЛТА.**

# ВЯРХОЎНЫ САВЕТ ПРЫНЯЎ РАШЭННЕ АБ АДТЭРМІНОЎЦЫ ЗАПАЗЫЧАНАСЦІ ПА ПАДАТКАХ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

Для атрымання адтэрміноўкі прадпрыемствы і арганізацыі павінны звярнуцца да 15 кастрычніка ў тэрытарыяльныя органы дзяржаўнай падатковай інспекцыі з адпаведнымі заявамі. Органы падатковай інспекцыі ў дзесяцідзённы тэрмін павінны разгледзець гэтыя заявы. Прыняцце рашэння аб адтэрміноўцы запазычанасцей з'яўляецца падставай для спісання штрафаў і пені. Тыя, каму гэтая адтэрміноўка прадастаўлена, павінны выплаціць 50 працэнтаў ад агульнай сумы запазычанасці ў перыяд з 1 кастрычніка 1997 года па 1 красавіка 2000 года штоквартальна па 5 працэнтаў ад агульнай сумы запазычанасці. Астатнія 50 працэнтаў выплачваюцца згодна з заканадаўствам.

Акрамя таго Вярхоўны Савет разгледзеў некаторыя іншыя законапраекты. Сярод іх выклікае цікавасць Закон «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон аб усенародным галасаванні (рэферэндуме)».

Як адзначыла дэпутат Т. Манукова, якая яго прадставіла, накіраванасць змяненняў у тым, каб не дазволіць паставіць пад сумненне вынікі рэферэндуму, зыходзячы з недакладнасці закона ці неадпаведнасці яго Канстытуцыі. У прыватнасці, дэпутаты дапоўнілі закон палажэннямі, якія пашыраюць магчымасці дзеянняў назіральнікаў падчас рэферэндуму і абавязваюць дзяржаўныя СМІ прадастаўляць роўную магчымасць для агітацыі «за» або «супраць» пытанняў, якія выносяцца на рэферэндум. Акрамя таго, Вярхоўны Савет прыняў пастанову аб арганізацыі прамой трансляцыі па радыё і тэлебачанні з залы пасяджэнняў Вярхоўнага Савета ў час абмеркавання пытанняў рэферэндуму, прапанаваных Прэзідэнтам.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

## ПАДСКОЧЫЛІ ЦЭНЫ НА БУДМАТЭРЫЯЛЫ

**На дзіва смірна паводзілі сябе цэны на будаўнічыя матэрыялы на працягу ўсяго сёлетняга лета.**

Шматлікія ўрадавыя абмежаванні і забароны на іх павелічэнне каменя на камені не пакінулі ад прадказанняў «усёведных» спецыялістаў: прадказвалася значнае павышэнне цэн у сувязі з інфляцыяй, а таксама ў выніку павышанага попыту ў разгар сезона. Толькі бліжэй да заканчэння гарачай будаўнічай пары зноў сталі даражэць некаторыя матэрыялы. За папярэднія паўтара месяца ў цане падрос цэмент — на 12 працэнтаў, рубероід — на 16 і лінолеум — на 5 працэнтаў. Мірная абстаноўка ў цэнаўтварэнні яшчэ нядаўна дазваляла будаўнічым арганізацыям спакойна планаваць свае работы. Аднак ужо ў верасні такая неабходная будаўнікам стабільнасць, хутчэй за ўсё будзе парушана па ўсіх артыкулах.

**Сяргей КУРКАЧ.**

## НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы чакаецца воблачнае з праясненнямі надвор'е. Па паўднёва-ўсходняй палавіне пройдуць кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Тэмпература паветра ў Віцебску — 16—18, Гродне, Магілёве, Мінску — 17—19, Гомелі — 18—20, Брэсце — каля 20 градусаў цяпла.

У наступныя двое сутак на большай частцы тэрыторыі Беларусі пройдуць дажджы. Тэмпература ўначы — 6—11, удзень — 14—19 градусаў.

## У СВЕЦЕ

### ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ

**ЧАРГОВЫ ЎДАР ПА ІРАКУ**

Учора раніцай ЗША нанеслі другі ракетны ўдар па ваенных аб'ектах у Іраку. 17 крылатых ракет былі запушчаны з караблёў ваенна-марскіх сіл ЗША, якія знаходзяцца ў Персідскім заліве, а таксама з ударнай падводнай лодкі «Джэферсан Сіці». У заяве прэс-сакратара Белага дома Майкла Маккеры гаворыцца, што мэта гэтай аперацыі ў тым, каб канчаткова знішчыць элементы сістэмы процілаветранай абароны, якія засталіся пасля першага ўдару крылатымі ракетамі. Прадстаўнік адміністрацыі прэзідэнта Клінтана, які папрасіў не называць яго імя, заявіў, што ў выпадку поспеху гэтай аперацыі Садам Хусейн больш не будзе пагражаць Іарданіі і не зможа нанесці ўдар па Кувейту.

Урад Вялікабрытаніі без прамаруджання выступіў у падтрымку новага ракетнага ўдару, які нанеслі ЗША. Праз некалькі хвілін пасля таго, як пра чарговую атаку было аб'яўлена ў Вашынгтоне, афіцыйны прадстаўнік брытанскага МЗС выступіў з заявай, у якой гаворыцца, што Лондан пастаянна інфармуецца аб дзеяннях ЗША і падтрымлівае гэтую акцыю.

У выніку ракетнага ўдару па Іраку ў аўторак было выпушчана 27 ракет, паводле даных іракскага боку, загінулі 5 чалавек і 19 атрымалі раненні.

Урад Расіі асудзіў амерыканскую ваенную аперацыю як неадэкватную і непрымальную рэакцыю на апошнія падзеі ў Іраку. У афіцыйнай заяве гаворыцца, што Расія настойвае на спыненні ўсіх ваенных акцый у Іраку, якія пагражаюць суверэнітэту і тэрытарыяльнай цэласнасці гэтай краіны, і заклікае да хутчэйшага вырашэння сітуацыі палітычнымі сродкамі.

**БАЕВІКІ АДБІРАЮЦЬ ЗБРОЮ Ў ВАЙСКОЎЦАЎ І РЫХТУЮЦЦА ДА СВЯТА**

Камандуючы ўнутранымі войскамі Анатоль Шкірко паведаміў, што чачэнскія сепаратысты стварылі спецыяльны атрад, якому пастаўлена задача адбіраць асабістую зброю ў вайскоўцаў, спасылаючыся на мірнае пагадненне, па якому ў Чачні забаронена адкрываць агонь. Як паведаміла агенцтва «АиФ-Новости», ужо былі спробы захопу чачэнцамі ўзбраення, боепрыпасаў і баявой тэхнікі ў ваколіцах Грознага і на блок-пастах за межамі горада. Кіраўніцтва чачэнскіх сепаратыстаў працягвае ствараць уласныя адміністрацыйныя структуры ў Грозным і іншых рэгіёнах рэспублікі. Пра гэта паведаміў прадстаўнік штаба федэралаў. Па яго даных, апазіцыя ўласнымі сіламі аднаўляе тэлефонную сетку ў Грозным, а таксама падачу электрасілкавання на гарадскі і раённы вузлы сувязі, рамантуе сеткі газа- і водазабеспячэння. Аднаўленчыя работы праводзяцца ў рамках падрыхтоўкі да святкавання 6 верасня Дня незалежнасці Ічкерыі.

**У КАНФЛІКТ НА БЛІЗКІМ УСХОДЗЕ, МАГЧЫМА, УСТУПІЦЬ І ТУРЦЫЯ**

Турцыя папярэдзіла пра магчымы рэйд сваіх войскаў у Паўночны Ірак для нанясення ўдару па базах курдскай рабочай партыі, якая вядзе ўзброеную барацьбу за стварэнне на паўднёвым усходзе Турцыі незалежнай дзяржавы Курдыстан. Міністр замежных спраў краіны заявіў, што Турцыя зробіць неабходныя крокі для забеспячэння бяспекі сваіх грамадзян. Раней турэцкія войскі неаднаразова ўрываліся ў зону бяспекі на поўначы Ірака, праследуючы курдскіх паўстанцаў.

**ЗАБАЙКАЛЬСКАЯ ВАЕННАЯ АКРУГА «ЛЯГЧЭЕ»**

Галоўны санітарны ўрач Забайкальскай ваеннай акругі палкоўнік медыцынскай службы Астаф'еў паведаміў, што ў апошнія тры гады ўсё больш паступае ў армейскія часці прызыўнікоў-дыстрофікаў. Так, больш як 10 працэнтаў юнакоў з рэспублікі Саха (Якуція) маюць недабор вагі ў сярэднім 15 кілаграмаў.

***Радыё «Свабода», «Голас Амерыкі», «Радыё Расіі» і «Радыё-РОКС» слухаў Сяргей ПРОТАС.***

## ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

Брытанскія археолагі пры раскопках у старым абацтве Мелроўз на мяжы з Шатландыяй знайшлі ўрну з забальзаміраваным сэрцам шатландскага караля Роберта Бруса, які ў 1314 годзе ў бітве з пераўзыходзячымі сіламі англічан атрымаў перамогу і забяспечыў незалежнасць сваёй краіны на доўгія гады наперад. Урну ўжо аднойчы знаходзілі — у 1921 годзе і, упэўніўшыся, што ў ёй сапраўды знаходзіцца сэрца, зноў пахавалі, запаяўшы ў свінцовую абалонку. Урна будзе зноў пахавана ў абацтве Мелроўз.

**Асашыэйтэд Прэс**

*Дзіця, з нараджэннем якога насельніцтва Тайланда складзе роўна 60 мільёнаў чалавек, атрымае шчодрую ўзнагароду — 150 тысяч бат золатам. Гэта 6 тысяч у пераліку на долары. Прадугледжаны і багатыя прызы для тых, хто зможа найбольш дакладна ўгадаць, дзе і калі адбудзецца гэта знамянальная падзея. Статыстыкі падказваюць, што шчаслівае дзіця народзіцца дзесьці пасля 11 гадзін вечара 2 лістапада.*

**Асашыэйтэд Прэс**

Грознае папярэджанне: «Не падыходзіць! Аб'ект заміраваны!» — змясціў сярод бульбяных пасадак курганскі жыхар Ніканаў. Да такога арыгінальнага рашэння яго падштурхнуў сумны вопыт: у мінулым годзе ў гаспадарлівага агародніка знеслі ўраджай з шасці сотак. Цяпер пацярпеўшы перасцярог зладзеяў: міны — самаробныя, пашкоджанні — сапраўдныя.

**ЕАН**

*АФІЦЫЙНА*

## ПРАБЛЕМЫ «ГОМСЕЛЬМАША» НА КАНТРОЛІ Ў ПРЭЗІДЭНТА

**Трэцяга верасня адбылася гутарка Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А.Р.Лукашэнкі з генеральным дырэктарам ВА «Гомсельмаш» В.Жмайлікам.**

Абмеркавана шэраг праблем, звязаных з фінансавым аздараўленнем прадпрыемства, рэалізацыя якіх дасць магчымасць калектыву машынабудаўнікоў увайсці ў графік стабільнай і рытмічнай работы. Прэзідэнт распарадзіўся выдзеліць прадпрыемству 26 млрд. рублёў на завяршэнне работ па выпрабаванню новага камбайна «Палессе-ротар» і запуску яго ў серыйную вытворчасць. Вырашана адшукаць сродкі для калгасаў і саўгасаў, якія будуць накіраваны на набыццё новай тэхнікі ў «Гомсельмаша». Вялікая ўвага была ўдзелена пытанням навукова-тэхнічнага прагрэсу, развіцця сацыяльнай сферы прадпрыемства, стымулявання працы, паляпшэння жыллёвых умоў і бытавога абслугоўвання рабочых і служачых ВА «Гомсельмаш».

**Прэс-служба Прэзідэнта — БЕЛТА.**

## ЗАЛОГАВЫ КОШТ НА ШКЛАТАРУ БУДЗЕ АДМЕНЕНЫ

**Магчыма, пункты прыёму шклатары ў бліжэйшай будучыні спыняць сваё існаванне.**

Для прадпрыемстваў па вытворчасці і разліву алкагольных і прахаладжальных напояў сёння больш выгадна купляць посуд непасрэдна на заводах па вырабу шкла. Расходы на шматразовую транспарціроўку шклатары і ўтрыманне прыёмных пунктаў — пастаянная прычына росту сабекошту асноўнай прадукцыі. Малочныя заводы сталіцы ўвогуле адмовіліся ад выкарыстання шклянога посуду.

Рэспубліка пакуль не мае прамысловых схем па утылізацыі адходаў шкла. Пры гэтым празмерна высокі залогавы кошт на посуд прыводзіць да таго, што ў прыгранічныя вобласці ў вялікіх аб'ёмах увозіцца шклатара з Расіі і Украіны. Рана або позна ўвесь ён выкідваецца на сметнік.

**Уладзіслаў ПЛАТУН, БЕЛТА.**

## «Пушэ» прапануе купіць «Шкоду-Феліцыю» ўсяго за месяц

**Насуперак вядомай бендэраўскай фразе, што аўтамабіль гэта ўсяго толькі сродак перамяшчэння, для простага абывацеля ён з'яўляецца ўсё ж такі раскошай і купіць яго, нават патрыманы, можа далёка не кожны.**

**Увасобіць недасягальную мару многіх аматараў аўто ў жыццё ўзялася вядомая фірма «Пушэ» праз сістэму «Аўтаклуб» — продаж аўтамабіляў у растэрміноўку як прыватным, так і юрыдычным асобам.**

**Сутнасць навінкі заключаецца ў тым, што, згодна з заключанымі дагаворамі на базе Сістэмы «Аўтаклуб», гарантам якога выступаюць такія кампаніі, як «Белаўтакрэдыт», БелШкода» і «Пушэ-Аўто», фарміруецца група (120 чалавек), члены якой штомесяц на працягу пяці гадоў уносяць пэўную суму. Праўда, уладальнікам аўтамабіля можна стаць ужо праз месяц — адразу пасля розыгрышу.**

31 жніўня ў сталічным гасцінічным комплексе «Кастрычніцкі» адбыўся ўрачысты акт размеркавання пераважнага права на атрыманне аўтамабіля «Шкода», у ходзе якога ўдзельнікі першай сфарміраванай групы (120 чалавек) вызначылі першых шчасліўцаў, якія атрымаюць свае новыя аўтамабілі ўжо ў наступным месяцы, хоць і будуць на працягу бліжэйшых 5 гадоў даплочваць астатнія 59/60 кошту машын.

— Сумеснае беларуска-аргенцінскае прадпрыемства «Белаўтакрэдыт» разлічана на людзей, якія жадаюць набыць аўтамабіль «Шкода», але не могуць выплаціць яго кошт адразу, — заявіў у час урачыстасці галоўны спецыяліст прадпрыемства і кансультант сістэмы Фернанда Сантурыя. — Магчымасць выплачваць штомесяц 1/60 кошту машыны, захоўваючы тым самым свае грошы ад інфляцыі, прыйшлося больш чым даспадобы і бразільцам, і аргенцінцам, і грэкам, і палякам, а цяпер — і ўкраінцам з беларусамі. Сведчаннем надзейнасці нашай сістэмы з'яўляецца і яе адкрытасць — штомесячны розыгрыш як мінімум двух выкупленых аўтамабіляў на групу адбываецца на вачах ва ўсіх і абавязкова ў прысутнасці натарыуса, і наш вопыт работы ў многіх краінах, у тым ліку і ў суседняй Польшчы, дзе сістэма дзейнічае з 1991 года, і наша сумесная работа з вядомым холдынгам «Пушэ», які мае бездакорную рэпутацыю за ўвесь час свайго існавання.

**Даведка**

*За пяць гадоў існавання «Аўтаклуба» ў Польшчы яго членамі сталі 150 тысяч чалавек, прычым трэць з іх ужо ездзяць на сваіх машынах. У Аргенціне — 50 працэнтаў, а ў Бразіліі — 75 працэнтаў усіх новых аўтамашын рэалізуюцца ў растэрміноўку праз сістэму аўтаклуба. «Празрыстасць» сістэмы — чарговая новая аўтамашына выдаецца групе для розыгрышу, як толькі збіраюцца чарговыя 60/60 доляў яе кошту (для групы ў 120 чалавек гэта, як правіла, азначае 2 машыны ў месяц), а даход аўтаклуба фіксуецца дакладна дэкларававанай адміністрацыйнай надбаўкай у 0,33 працэнта ад кошту машыны — выклікае сімпатыі і давер кліентаў, а яе гібкасць — адна з дзвюх машын разыгрываецца па лататрону, а другая — на аўкцыёне, дзе пераможцам становіцца той, хто зможа выплаціць найбольш сваіх штомесячных узносаў наперад, — дазваляе ўдала спалучаць шанцаванне з нецярплівым жаданнем мець машыну як мага хутчэй. Удзельнікамі «Аўтаклуба» могуць быць як прыватныя, так і юрыдычныя асобы.*

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

## КВЕТКІ АЛЕСЮ АДАМОВІЧУ АД ПРЭЗІДЭНТА РАСІІ

**Учора прадстаўнікі дэмакратычнай грамадскасці Масквы ўшаноўвалі памяць сына беларускага народа, пісьменніка і вучонага, кінадраматурга і публіцыста Алеся Адамовіча. Па рашэнню мэра Юрыя Лужкова на адным з дамоў у цэнтры горада непадалёку ад плошчы Пушкіна ў завулку Вялікі Казікінскі, 17, дзе 5 апошніх гадоў жыў Алесь Аляксандравіч, была ўстаноўлена бронзавая мемарыяльная дошка. На ёй барэльеф пісьменніка і надпіс: «Алесь Адамовіч. 1927—1994».**

На ўрачыстае яе адкрыццё прыехалі маскоўскія пісьменнікі, дзеячы кіно, журналісты, палітыкі, землякі. З Беларусі прыехала дачка Адамовіча — Наталля Аляксандраўна.

На ўрачыстым мітынгу, прысвечаным гэтай падзеі, пасля адкрыцця мемарыяльнай дошкі, былы кіраўнік адміністрацыі расійскага прэзідэнта Сяргей Філатаў сказаў: «Дарагія сябры, перш за ўсё я хачу падзякаваць ураду Масквы і Юрыю Міхайлавічу Лужкову за тое, што мы сёння змаглі ўшанаваць памяць выдатнага чалавека, які шмат зрабіў для развіцця дэмакратыі і культуры чалавека, які многа зрабіў для развіцця дэмакратыі і культуры Масквы. Ён заўсёды быў у першых радах у барацьбе за свабоду расіян, за рэформы.

Адкрыццё мемарыяльнай дошкі — гэта не толькі даніна памяці, не толькі ацэнка яго спраў. Гэта адначасова і напамінак аб тым драматычным часе, актыўным салдатам якога быў Алесь Адамовіч. Нам яго вельмі не хапае ўсе гэтыя гады. Ён як інтэлігент востра адчуваў смак і неабходнасць свабоды. Ён як пісьменнік перажываў разам з грамадствам, імкнуўся яму дапамагчы. Але ён гаварыў толькі праўду, ён пісаў толькі аб галоўным. Ён быў заўсёды на пярэднім краі. Аб гэтым павінны памятаць тыя, хто прыйдзе да мемарыяльнай дошкі ў гонар вялікага і таленавітага сына беларускага народа».

Шмат добрых слоў было сказана на ўчарашняй урачыстасці. Дзесяткі букетаў жывых кветак усклалі масквічы ля дошкі памяці Адамовіча.

Прыслаў кветкі і Барыс Ельцын. На трохколернай стужцы напісаны словы: «Алесю Адамовічу ад прэзідэнта Расійскай Федэрацыі».

**Леанід ФАДЗЕЕЎ.**

*ХОДЗЯЦЬ ЧУТКІ, ШТО...*

## ... НАПРЫКАНЦЫ ЛЕТА ЎЗРАСЛА КОЛЬКАСЦЬ ПАЖАРАЎ У КРАІНЕ

**Апошнімі днямі жыхары ўскраін Мінска пачалі заўважаць, як пакрысе паветра паступова пачынае запаўняць дым, які да заходу сонца стварае такую сцяну, што нават цяжка дыхаць. Пачалі гаварыць аб тым, што з-за спякотнага надвор'я, якое ўстанавілася ў краіне, у тым ліку і пад Мінскам, зноў, як і летась, запалалі лясныя і тарфяныя пажары...**

Як паведамілі ў Галоўным упраўленні ваенізаванай пажарнай службы (ГУВПС) МУС РБ, сапраўды, за прайшоўшы тыдзень з-за наступіўшай спёкі ў Беларусі актывізаваліся тарфяныя і лясныя пажары. Толькі за апошнія сем дзён пажарныя выязджалі на тушэнне такіх пажараў 1103 разы, што значна больш за сярэднестатыстычную лічбу. Усяго ж за тыдзень адбылося 712 пажараў, урон ад якіх склаў 3 млрд. 314 млн. рублёў — таксама даволі значныя лічбы. Агнём былі пашкоджаны або згарэлі цалкам 314 будынкаў, 1004 тоны грубых кармоў, 131 адзінка тэхнікі. У вогненнай стыхі загінулі 3 чалавекі.

Дарэчы, як падкрэслілі ў ГУВПС МУС РБ, гэта прыкладна такі ж урон, які быў нанесены за тры летнія месяцы па віне непаўналетніх. Як сведчыць статыстыка, за лета па віне дзяцей адбыліся 262 пажары, урон ад якіх склаў амаль 3 млрд. рублёў. Агнём было знішчана або пашкоджана 14 жылых дамоў, загінула 6 дзетак...

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## З ВЫМАГАЛЬНІКАМІ «РАЗЛІЧЫЦЦА» СУД

**Не ўдалося пазбегнуць сустрэчы з вымагальнікамі дырэктару аднаго з мінскіх таварыстваў з абмежаванай адказнасцю.**

Невядомыя неаднаразова патрабавалі з яго 2,5 тысячы долараў ЗША пад пагрозай фізічнай расправы. Прадпрымальніку нічога не заставалася, акрамя як звярнуцца ў міліцыю, што ён і зрабіў. За вымаганне затрыманы таксама прыватны прадпрымальнік і непрацуючы, абодва жыхары Мінска.

**Пётр РАБКАВЕЦ, прэс-цэнтр МУС.**

# ЗЛАЧЫННАСЦЬ НА ЧЫГУНЦЫ. ШТО ПРОЦІПАСТАВІЦЬ ЁЙ?

**Яшчэ параўнаўча не так даўно сродкі масавай інфармацыі літаральна страцелі паведамленнямі аб рабаўніцтве чыгуначных саставаў, спробах незаконнага вывазу за мяжу каляровых металаў, іншых каштоўнасцей... Сёлета такіх прыкладаў паменела. Ці можа мы ўжо прызвычаіліся да падобных з'яў і менш сталі звяртаць увагі, ці ўсё ж справы там і сапраўды палепшыліся? Пра гэта — наша гутарка з намеснікам начальніка ўпраўлення ўнутраных спраў на транспарце палкоўнікам міліцыі Васілём Пуліновічам. Дарэчы, сёлета спаўняецца 20 гадоў яго работы ў транспартнай міліцыі.**



— Для пачатку зазначу, — гаворыць Васіль Пятровіч, — што ў аператыўным абслугоўванні ўпраўлення ўнутраных спраў на транспарце знаходзяцца аб'екты Беларускай чыгункі, эксплуатацыйная працягласць якой складае 5,5 тысячы кіламетраў і 2,3 тысячы кіламетраў пад'язных пуцей. На дарозе 18 буйных чыгуначных вузлоў, 416 станцый і звыш 1 тысячы прыпыначных пунктаў, 56 грузавых двароў і 46 кантэйнерных пляцовак, 50 крытых і 240 адкрытых платформаў, каля 600 магазінаў і прадпрыемстваў грамадскага харчавання. Колькасць працуючых на прадпрыемствах і ў арганізацыях чыгуначнага транспарту складае недзе каля 100 тысяч чалавек. Кругласутачна прымаецца і адпраўляецца ў дарогу 190 пасажырскіх, 790 прыгарадных і 560 грузавых паяздоў. Гэтыя лічбы прыводжу толькі дзеля таго, каб паказаць, які няпросты аб'ём работы ўскладзены на супрацоўнікаў транспартнай міліцыі па барацьбе са злачыннасцю на транспарце, ахове грузаў і пасажыраў. Да таго ж у аператыўным абслугоўванні работнікаў упраўлення ўнутраных спраў на транспарце 7 аэрапортаў, у тым ліку і авіякомплекс «Мінск-2» — міжнародны.

А цяпер непасрэдна пра тое, чым даводзіцца займацца. Аналіз аператыўнай абстаноўкі сведчыць, што ў дынаміцы злачыннасці на транспарце ў Беларусі з'явіліся пэўныя станоўчыя зрухі. За паўгода на аб'ектах транспарту зарэгістраваны 1923 злачынствы, што крыху менш, чым за адпаведны перыяд мінулага года. На 29,4 працэнта зменшылася групавая злачыннасць, на 37,5 працэнта менш учынена злачынстваў непаўналетнімі, на 14,9 працэнта — рабаўніцтваў... Пацішэла і ў пасажырскіх і прыгарадных паяздах: тут за паўгода зарэгістраваны 154 злачынствы — на 17,2 працэнта менш, чым летась. У той жа час колькасць так званых «п'яных» злачынстваў павялічылася на 6,4 працэнта, расце крывая забойстваў, цяжкіх цялесных пашкоджанняў, разбойных нападаў...

**— Раней нямала злоўжыванняў было звязана з незаконным вывазам за мяжу каляровых металаў. Нярэдка спрытнюгі ў пошуку медзі выводзілі са строю дзеючае электраабсталяванне, сродкі сігналізацыі і сувязі, у тым ліку і на чыгунцы...**

— За паўгода, у параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года, колькасць крадзяжоў каляровых металаў зменшылася на 70,5 працэнта. Гэтаму паспрыяў вядомы Указ Прэзідэнта, які паставіў у адпаведныя рамкі збор і рэалізацыю лому каляровых металаў. Гэта справа строга ліцэнзуецца. Забаронена і рэклама па збору і рэалізацыі каляровых металаў. Аднак усё ж трэба ўзмацніць патрабавальнасць да тых службаў і асоб, якія выдаюць ліцэнзіі камерцыйным структурам на правядзенне работ, звязаных з падрыхтоўкай і рэалізацыяй лому каляровых металаў. У прыватнасці, Мінскі аблвыканком выдаў адпаведную ліцэнзію адной камерцыйнай фірме, што мае свае філіялы ў Брэсцкай вобласці. Хто іх там пракантралюе? І наогул трэба абмежаваць выдачу падобных ліцэнзій, устанавіць жорсткі кантроль за работай тых, хто ўжо мае адпаведныя дакументы.

**— Прылаўкі многіх крамаў аж стракацяць ад рознакаляровых наклеек з імпартнымі напоямі, вядома, моцнымі. І з цыгарэтамі — тое ж самае. Імі гандлююць ледзь не на кожным кроку. А ёсць жа законы, пастановы, што абмяжоўваюць гандаль гарэлачнымі і тытунёвымі вырабамі.**

— Супрацоўнікі транспартнай міліцыі прыкладаюць шмат намаганняў па выкананню Указаў Прэзідэнта № 45 ад 2 лютага ц. г. «Аб дзяржаўным рэгуляванні вытворчасці, рэалізацыі і захоўвання тытунёвых вырабаў» і № 116 ад 20 сакавіка «Аб увядзенні маркіроўкі ўвозімых у Рэспубліку Беларусь алкагольных і тытунёвых вырабаў». У адпаведнасці з гэтымі ўказамі органамі ўнутраных спраў на транспарце праверана звыш 700 аб'ектаў. У выніку сума накладзеных арыштаў на алкагольныя вырабы за розныя злоўжыванні перавысіла 300 мільёнаў рублёў, на тытунёвыя — 70 мільёнаў. Канфіскавана тавараў амаль на 140 мільёнаў рублёў. Так, 3 ліпеня ў салоне-рэстаране поезда № 58 Варшава — Санкт-Пецярбург супрацоўнікамі Гродзенскага аддзела ўнутраных спраў на транспарце затрыманы двое грамадзян Расіі (адзін з іх — афіцыянт гэтага ж рэстарана) і жыхар г. Слуцка, якія скупілі ў Гродне 1800 літровых бутэлек спірту (недзе на 78 мільёнаў рублёў) і спрабавалі яго незаконна вывезці. Цяпер па гэтай справе вядзецца следства. І падобных прыкладаў нямала.

**— Апошнім часам Рэспубліка Беларусь стала свайго роду транзітным шляхам для наркотыкаў. Як з гэтай навалай змагаюцца супрацоўнікі транспартнай міліцыі?**

— Даводзіцца з сумам канстатаваць, што да шматлікіх праблем барацьбы са злачыннасцю дабавілася яшчэ адна — наркабізнес. Толькі ў першым паўгоддзі супрацоўнікамі унутраных спраў на транспарце выяўлена 69 спроб правозу па чыгунцы наркатычных сродкаў, што ў 2,5 раза перавышае адпаведны мінулагодні паказчык. Так, 28 чэрвеня ў 19.00 супрацоўнікамі Лунінецкага аддзялення ўнутраных спраў на транспарце ў ходзе правядзення спецыяльнага мерапрыемства на чыгуначнай станцыі Лунінец быў затрыманы жыхар Смаленскай вобласці І. Цімашкоў з больш чым кілаграмовым грузам макавай саломкі. А праз месяц у Слуцку быў затрыманы салігорскі школьнік з трыма кілаграмамі ўсё той жа макавай саломкі.

**— Для злачынцаў, як вядома, не існуе нацыянальных адрозненняў, дзяржаўных межаў. А чым адказваюць на гэта праваахоўныя органы?**

— Упраўленне ўнутраных спраў на транспарце МУС Рэспублікі Беларусь пастаянна ўзмацняе кантакты з калегамі з Украіны, Расіі. Сёлета ўжо двойчы сумесна з імі праводзілі буйнамаштабныя прафілактычныя мерапрыемствы пад кодавай назвай «Поезд», якія накіраваны перш за ўсё на барацьбу з міграцыяй злачыннасці, выяўленне злачынных груповак, правоз зброі, наркотыкаў, алкагольных напояў і інш. У ходзе гэтых аперацый ўдалося раскрыць 63 злачынствы, прыцягнуць да адміністрацыйнай адказнасці каля 3 тысяч чалавек. Толькі за час адной такой праверкі супрацоўнікамі Брэсцкага аддзела ўнутраных спраў на транспарце ў поездзе львоўскага напрамку выяўлена і канфіскавана 224 літры спірту.

У барацьбе за правапарадак на транспарце станоўчыя вынікі прыносіць цеснае супрацоўніцтва з падраздзяленнямі ўнутраных войскаў МУС, чыгуначнікамі наладжана сумеснае патруляванне, суправаджэнне паяздоў. І тут нам актыўна дапамагае камандуючы ўнутранымі войскамі генерал-маёр Юрый Сівакоў, начальнік Беларускай чыгункі Яўген Валадзько.

**Гутарыў Уладзімір ГОЙТАН.**

# «МАЎЗАЛЕЙ» НА ЎЗГОРКУ

**Інвестыцыйная палітыка ў раёнах, што пацярпелі ад катастрофы на ЧАЭС, рацыянальнае выкарыстанне чарнобыльскіх сродкаў — тэмы, якія ў апошні час даволі пастаянна гучаць на нарадах у Прэзідэнта. Прымаюцца і адпаведныя рашэнні. Аднак якое «гучанне» потым надае ім наша прывычная, адпрацаваная за дзесяцігоддзі ведамасная практыка?**

**Восенню 1994 года, калі ў вёсцы Пяршаі Валожынскага раёна ўрачыста адкрывалі цэнтр сацыяльна-псіхалагічнай рэабілітацыі, узведзены пры фінансавай дапамозе ЮНЕСКО і матэрыяльнай падтрымцы беларускага Дзяржкамчарнобыля, ні ў кога не выклікала сумненняў, што месца для «пасадкі» важнай чарнобыльскай установы выбрана абсалютна правільна. Выбіралі месца па некалькіх асноўных крытэрыях, у тым ліку — і па ўзроўню забруджвання тэрыторыі радыенуклідамі цэзію. Адну з галоўных роляў у гэтай справе адыграў тагачасны старшыня Дзяржкамчарнобыля І. Кенік (цяпер — кіраўнік Міністэрства па надзвычайных сітуацыях і абароне насельніцтва ад наступстваў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, скарочана — МНС).**

**Немагчыма, аднак, не сказаць і аб прыкладах «падтрымкі» людзей зусім іншага характару. Пра гэта пішуць выбаршчыкі Пяршайскага сельсавета ў адкрытым лісце да свайго дэпутата ў Вярхоўным Савеце Г. Кашкана, былога супрацоўніка Дзяржкамчарнобыля: «Самі Пяршаі і яшчэ пяць населеных пунктаў... былі аднесены да зоны радыеактыўнага забруджвання цэзіем-137 ад 5 да 10 кі/кв. км. Згодна ж з пастановай Кабінета Міністраў чатыры населеныя пункты з шасці... аднесены цяпер да зоны пражывання з перыядычным радыяцыйным кантролем ад 1 да 5 кі/кв. км.**

**За мінулыя гады ўзровень смяротнасці значна перавышае ўзровень нараджальнасці. Так, напрыклад, за 1995 год па сельсавету зарэгістраваны 33 смерці, а нарадзілася ўсяго толькі 12 немаўлят. Ужо за першы квартал бягучага года памерлі 17 чалавек, нарадзілася ж усяго двое дзяцей».**

**Апісваючы жудасную захворваемасць дзяцей ад 6 да 15 гадоў, сярод якіх няма ніводнага абсалютна здаровага дзіцяці, канстатуючы, што, адбіраючы ў людзей тыя нязначныя льготы, якія яны яшчэ мелі, дзяржава ўкарочвае і без таго кароткае іх жыццё. Трыста вяскоўцаў, якія паставілі подпісы пад пісьмом, задаюць пытанне: «Няўжо мы і нашы дзеці не вартыя лепшай долі, не маем нармальнага будучага?»**

**Ці трэба каменціраваць гэты крык душы? Тут і так усё зразумела. Ясна і тое, што той самы цэнтр сацыяльна-псіхалагічнай рэабілітацыі ўзведзены ў вёсцы зусім не выпадкова. У той жа час можна амаль адназначна сцвярджаць: сённяшнія вяршыцелі чарнобыльскіх лёсаў з «высокіх» кабінетаў не пабудавалі б яго тут ніколі. «Вам не належыць! У вас чыстая тэрыторыя», — такая цяпер у асноўным гама адказаў на абгрунтаваныя скаргі чарнобыльцаў.**

**Валожыншчына — раён наогул з дзіўным і незразумелым «чарнобыльскім лёсам»: яго апошнім «прызналі» як забруджаны і першым амаль увесь выкінулі з зоны. У гэтай сувязі, думаецца, яшчэ больш паказальныя факты з жыцця вёскі Сівіца — буйнейшага населенага пункта Івянецкага сельсавета і цэнтра калгаса «Рассвет». Узровень радыяцыі тут яшчэ вышэйшы, чым у Пяршаях, а значыць, і праблем ніяк не менш.**

ВОСЬ ВЫТРЫМКА з пісьма Беларускага камітэта «Дзеці Чарнобыля» ў рэдакцыю «Звязды»: «Некалькі гадоў назад у рамках чарнобыльскай праграмы ў вёсцы было пачата будаўніцтва школы. У маі гэтага года, пасля ўзнікшага пажару ў старой разбуранай школе, яна была закрыта пажарнай інспекцыяй.

Вядома, што пасля ўказа Прэзідэнта Беларусі аб накіраванні чарнобыльскіх сродкаў на месцы ўпраўленне капітальнага будаўніцтва (УКБ) Валожынскага райвыканкома атрымала грошы на завяршэнне будаўніцтва, аднак работы ідуць слаба. Дзе ж пачнуць навучальны год дзеці Сівіцы?»

Занепакоенасць кіраўнікоў дабрачыннага фонду зразумелая, паколькі ён ажыццяўляе ў раёне пэўную частку сваіх праграм дапамогі чарнобыльцам. Праўда, у фондзе, грамадскай арганізацыі, няма дыпламаваных спецыялістаў-эканамістаў і інжынераў-будаўнікоў, таму можна і дараваць, што выкладзеная інфармацыя не ва ўсім дакладная. Аднак у галоўным аўтары пісьма маюць рацыю: вучыцца дзецям у Сівіцы практычна няма дзе — будынак старой драўлянай школы сапраўды пажаранебяспечны і знаходзіцца ў аварыйным стане.

А што ж з новай школай? О, гэта, як вызначылі б пры камуністах, сапраўдны помнік безгаспадарчасці! Яна, безгаспадарчасць, застаецца такой і сёння, калі ў нас пануе, умоўна кажучы, «дэмакратычны сацыялізм». Пяты год высіцца на маляўнічым узгорку вясковай ускраіны недабудаваны «маўзалей». І гэта зусім не літаратурная звышметафара: у незавершаным «маўзалеі» на немаведама які час пахаваны і грошы падаткаплацельшчыкаў, і надзеі мясцовых сялян, што калі-небудзь і іх дзеці змогуць вучыцца, скажам так, па-людску, не баючыся, што на цябе абваліцца столь ці сцяна.

Чым стараннем у раёнах рэспублікі, забруджаных радыенуклідамі, узводзяцца такія «помнікі»? У нашым канкрэтным выпадку заслону прыпадымае расказ намесніка старшыні Валожынскага райвыканкома і адначасова — начальніка УКБ Уладзіміра Уэльскага:

— У былым Дзяржкамчарнобылі, цяперашнім Міністэрстве па надзвычайных сітуацыях, год за годам «узбуджаюць» пытанне: навошта ў Сівіцы школа? Таму дзяржкамітэт і яго пераемнік — МНС фінансавалі і фінансуюць будаўніцтва праз пень-калоду. І першым у «ролі шлагбаума» заўсёды чамусьці быў начальнік упраўлення капітальнага будаўніцтва МНС Віктар Яшчук. Не дзіўна, што пры такіх мізэрных сродках падрадчыкі толькі фундамент школы ўзводзілі два гады. Гэта ж ганьба ў сэнсе эканомікі будаўніцтва! У апошнія мае наведванні міністэрства В. Яшчук выставіў ужо новыя аргументы: маўляў, чаму гэта вам павінны будаваць школу на чарнобыльскія сродкі — раён ужо не падыходзіць па ўзроўнях забруджвання тэрыторыі цэзіем і дозы радыяцыйнага апраменьвання, атрымліваемай насельніцтвам.

У В. Яшчука, зразумелая справа, свой пункт погляду:

— Я заўсёды паслядоўна выступаў супраць гэтага будаўніцтва, таму свядома не выязджаў на будпляцоўку, бо разбірацца з аб'ектам не бачу прычыны. Ён і раней быў лішнім сярод будоўляў дзяржпраграмы, а сёння зніклі апошнія чарнобыльскія крытэрыі, па якіх школа ў гэтай праграме існавала, — вёска Сівіца цяпер у чыстай зоне. І гэтым усё сказана! Што датычыцца Валожынскага райвыканкома, яго кіраўнікоў, то яны прытрымліваюцца мясцовых, а не дзяржаўных пазіцый: хочуць, каб раён будаваўся толькі на сродкі дзяржбюджэту.

Такія вось рознапалярныя падыходы, якія, па ўсім відаць, ніхто разам звесці не зможа. Пытанне: хто ж у гэтым процістаянні выглядае як сапраўдны дзяржаўны муж?

У БЕЛАРУСКАГА інстытута радыяцыйнай бяспекі («Белрад») у розных мясцінах рэспублікі маюцца пункты радыяцыйнага кантролю прадуктаў харчавання. Валожынскі раён — не выключэнне. Вось толькі некалькі прыкладаў таго, што менавіта прыносілі жыхары Сівіцы на праверку. Грыбы сушаныя: узровень іх радыеактыўнасці ў бекерэлях на кілаграм склаў 32.825, а норма — 3700 бекерэляў. Як вам «падабаецца» такая розніца, паважаныя чытачы? Чарніцы кансерваваныя (дзіцячае харчаванне) «пацягнулі» на 227 бекерэляў замест 37 па норме.

Не будзем дадаткова тлумачыць, з-за якіх эканамічных прычын нашы суграмадзяне вымушаны карыстацца такімі небяспечнымі для здароўя «дарамі» лесу і есці забруджаныя прадукты з уласнага агароду. Проста засяродзім увагу: менавіта па гэтай прычыне людзі атрымліваюць павышаную дозу ўнутранага радыяцыйнага апраменьвання.

А цяпер прывядзём даведку Мінскай абласной санэпідстанцыі, якую яна дае на падставе «Каталога доз апраменьвання жыхароў населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь» 1992 года, які дзейнічае і сёння. Вёска Сівіца знаходзіцца ў зоне са шчыльнасцю забруджвання па цэзію ад 5 да 15 кі/кв. км. Гадавая сумарная доза апраменьвання насельніцтва (знешняга плюс унутранае) складае тут на аднаго чалавека 1,3 мілізіверта.

Маючы на руках гэтыя лічбы, можна зазірнуць хоць бы і ў «новую», так званую «Канцэпцыю ахоўных мераў у аднаўленчы перыяд...», якая павінна паціху замяніць сабой вядомую гуманную канцэпцыю Акадэміі навук. Нават у гэтым звышжорсткім у адносінах да чарнобыльцаў дакуменце і то сказана, што зона з такім узроўнем дозавага апраменьвання не што іншае, як «тэрыторыя правядзення ахоўных мерапрыемстваў».

Па Закону ж аб сацыяльнай абароне пацярпеўшых ад Чарнобыля — гэта наогул зона з правам на адсяленне. Разумееце? Самая што ні на ёсць «чарнобыльская зона»! Дык што тады застаецца ад штучных, надуманых заяў наконт таго, што жыхары Сівіцы, ці бачыце, «зусім беспадстаўна» спадзяюцца на нейкую долю ад чарнобыльскай часткі дзяржбюджэту, на дапамогу дзяржавы? Навошта наогул напускаецца туман? Перш за ўсё, відаць, каб стварыць поле для ўласных, чыноўніцка-ведамасных «манеўраў».

Уся «барацьба» вакол школы ў Сівіцы, якая, дарэчы, пачалася яшчэ ў 1989-90 гадах і вялася на ўзроўні тагачаснага Дзяржкамчарнобыля і Мінскага аблвыканкома, — таму чарговае пацвярджэнне. У ведамасных кабінетах тады нарадзілі «канцэпцыю» (а колькі іх такіх было!) — школу будаваць не трэба, бо ў вёсцы вялікі радыяцыйны фон, у некаторых месцах — да 15 кюры. Цяпер жа — паварот на 180 градусаў: чарнобыльскіх сродкаў на заканчэнне аб'екта не даваць, паколькі ў Сівіцы ўсё стала «чыста». Дзе логіка?

Наогул, шукаць эканамічную і гаспадарчую логіку ў барацьбе амбіцый і ўнутраных плыняў у міністэрскіх калідорах — занятак, на які не хопіць і двух жыццяў. Ужо толькі адна дэталь — невырашальны рэбус: міністр І. Кенік, распачынаючы будаўніцтва таго самага цэнтра сацыяльна-псіхалагічнай рэабілітацыі ў «радыенуклідных» Пяршаях, лічыць такое рашэнне абсалютна правільным. У той жа час яго памочнікі ўсяляк супраціўляюцца ўзвядзенню не менш важнага сацыяльнага аб'екта ў такой жа «чарнобыльскай» Сівіцы. Хто растлумачыць гэтую «загадку стагоддзя»?

...У тым, што здаровы сэнс у чымсьці раз-пораз усё ж перамагаў, — заслуга мясцовых уладаў, па сённяшняму выразу — «вертыкальшчыкаў», і таго ж калгаса «Рассвет»: школа ў Сівіцы была ўключана ў былую чарнобыльскую дзяржпраграму, заняла «свой радок» і ў цяперашняй. Але якой цаной! Пры якім супраціўленні!

— Гэты год, — рэзюмуе У. Уэльскі, — зноў пачаўся для нас з хаджэнняў па высокіх сталічных кабінетах, з просьбаў і скаргаў. Усё таму, што аднекуль пайшла пошасць пагалоўнага выкідвання з праграмы аб'ектаў раёна. З тым, што дзяржпраграма — афіцыйны ўрадавы дакумент, мала хто лічыцца.

ЛЁС ШКОЛЫ — ТОЛЬКІ АДЗІН з вялікай колькасці прыкладаў таго, наколькі бяздарна расходуюцца ў краіне чарнобыльскія сродкі. Толькі ў адным Валожынскім раёне — сем «чарнобыльскіх даўгабудаў»: дзіцячы сад-яслі ў саўгасе імя Маякоўскага, 40-кватэрны дом у райцэнтры для перасяленцаў з Гомельшчыны, газазабеспячэнне ў калгасе імя Гастэлы, пракладка газавых сетак у пасёлку Івянец і іншыя.

Узяць, напрыклад, чарговы недабудаваны «помнік» — гінекалагічны корпус райбальніцы, вакол якога таксама разыгрывалася нямала камбінацый. Будынак пачалі ўзводзіць па лініі Міністэрства аховы здароўя, потым уключылі ў чарнобыльскую дзяржпраграму, калі грошы на будаўніцтва пачаў пералічваць ужо Дзяржкамчарнобыль. Неўзабаве аб'ект з праграмы... выкінулі, затым — зноў у ёй аднавілі. І такія гульні цягнуцца гадамі! Хіба гэта не паказальна?

Што, аб'екты аховы здароўя нам ужо не патрэбны? Тады пакажам, на якім фоне разыгрываецца гэты трагічны фарс. Агульная смяротнасць па раёну ў разліку на 1000 жыхароў летась склала 20,5 працэнта. Калі ж дэталізуем лічбу, то ўбачым: у экалагічна чыстай зоне гэты ўзровень быў 15,8, а на забруджанай тэрыторыі — 34,3 працэнта.

Пры наяўнасці такіх фактаў не трэба і задавацца рытарычным пытаннем: чаму за пяць гадоў не знайшлося сродкаў, каб завяршыць у прынцыпе нескладаны аб'ект — тую ж школу ў Сівіцы? Лепш прывядзём хрэстаматыйны прыклад: Ваўкавыскі завод па вытворчасці дзіцячага харчавання мог і сёння можа забяспечыць сваёй прадукцыяй усю Беларусь. Аднак уплывовыя ў рэспубліцы асобы вырашылі будаваць такі ж завод на Гомельшчыне. Ці трэба цяпер пытацца, у якую «чорную дзірку» вылятаюць чарнобыльскія грошы?

Прэзідэнт, усе ведаюць, у час паездкі ў сумна вядомы Дрыбінскі раён выявіў некалькі дзесяткаў недабудаваных і разрабаваных катэджаў для чарнобыльцаў-перасяленцаў. І паляцелі, як кажуць, начальніцкія галовы. А як інакш? Трэба ж нарэшце адказваць за свае «вялікія справы».

Урон дзяржаве ў гэтым выпадку, безумоўна, нанесены немалы, аднак пры некаторым напружанні справы ўсё ж такі паправіць можна — што сёння і робіцца. Але хто можа сказаць, колькі за пяць апошніх гадоў, калі чарнобыльская праграма стала фінансавацца не з былой саюзнай касы, а з нашай уласнай, распачата і закінута будоўляй? Колькі дзесяткаў мільярдаў народных (у літаральным сэнсе!) рублёў убухана ў голыя «нулявыя цыклы» — і без аніякай аддачы? Тых самых амярцвлёных мільярдаў, якіх сёння так не хапае на сацыяльную, медыцынскую і іншую абарону пацярпеўшых ад ядзернай катастрофы? З-за чаго, між іншым, на гэтых самых пацярпеўшых сёння ўраду і прыходзіцца «эканоміць». У гэтым плане нашы валожынскія прыклады — толькі кропля ў моры.

У АПОШНІ ЧАС усталяваўся прыкладна такі прынцып фінансавання аб'ектаў чарнобыльскай праграмы: грошы не павінны затрымлівацца ў сталіцы, у Міністэрстве па надзвычайных сітуацыях, іх адразу неабходна накіроўваць у раёны, бо мясцовыя ўлады лепш ведаюць, як іх прымяніць. Другая палова гэтай формулы гучыць так: бюджэт не безразмерны, таму фінансавацца будуць прыярытэтныя напрамкі.

Менавіта сама катэгорыя «новых прыярытэтаў» і ставарае атмасферу, калі ўзнікае спакуса закладваць усё новыя будоўлі, пакінуўшы «надакучыўшыя» даўгабуды на волю лёсу — з усімі адмоўнымі вынікамі для эканомікі дзяржавы. Ці не адсюль узнікла тая самая пошасць «умоўнага» выкідвання аб'ектаў з праграмы, калі яны нібыта і запісаны ў дзяржаўным дакуменце, але ў прыродзе быццам і не існуюць?

— Крытэрыі, якімі ў гэтай справе кіруюцца трымальнікі фінансаў, вельмі размытыя, — прыводзяць чарговы прыклад у Мінскім аблвыканкоме. — У вёсцы Пясчанка Салігорскага раёна можна было б даволі хутка здаць у эксплуатацыю школу на 280 вучняў, тым больш што там маецца ўжо гатовая кацельня. Аднак і ў гэтым выпадку ў МНС чамусьці «ўпарцяцца» — грошай не выдзяляюць.

А вось разлікі В. Шаўлоўскага, начальніка Валожынскай міжгаспадарчай перасовачнай мехкалоны № 188, якая нарэшце атрымала хоць нейкую магчымасць штосьці рабіць на «новай» школе ў Сівіцы:

— Летась мы працавалі тут бясплатна — Міністэрства па надзвычайных сітуацыях не дало ні рубля. Толькі цяпер, у чэрвені, дзякуючы намаганням райвыканкома нам заплацілі 420 мінулагодніх мільёнаў. На сённяшні дзень на будаўніцтва адпушчана толькі 328 мільёнаў рублёў, усё астатняе — пакуль на паперы. Пэўную суму мы затрацім на набыццё неабходнага абсталявання, а на будаўнічыя работы, такім чынам, рэальна застаецца 228 мільёнаў. Якія мы і асвоілі на тынкоўцы, насцілцы падлогі, установцы вокнаў і дзвярэй — каб будынак можна было «закрыць» на зіму. Галоўнае ж цяпер — кацельня, без якой школу пры ўсім жаданні эксплуатаваць нельга. Аднак нават на паперы на яе выдзелілі «вельмі смешную» суму — 770 мільёнаў, фактычна ж — менш як дзве трэці ад яе. А патрэбна ў некалькі разоў больш. На жаль, зноў усё ўпёрлася ў пазіцыю кіраўніцтва ўпраўлення капбудаўніцтва МНС.

Хто не ведае, як сёння разлічваць на абяцаныя грошы, запісаныя недзе ў планах? Аднак і за гэтыя «папяровыя» сумы трэба дзякаваць не МНС, а... заўсёды скупаватаму Мінфіну. Затое «чарнобыльскае» міністэрства, «адваліўшы» толькі чацвёртую частку сумы, неабходнай для ўводу аб'екта ў строй, ужо націскае: здавайце школьны корпус сёлета! А хто ж дапусціць эксплуатаваць школу без цяпла, вады, святла і каналізацыі? І тут тырчаць вушы чыноўніцкіх камбінацый: нам абы адрапартаваць «наверх», а кашу потым няхай расхлёбвае мясцовая «вертыкаль».

У райвыканкоме занялі прынцыповую пазіцыю:

— Школу ў такім выглядзе здаваць ні ў якім разе нельга, тым больш, што і грошай на гэта сёння поўнасцю няма. Неабходна падрыхтаваць корпус да зімы, «закрыць» яго, каб там нічога не расцягвалі. Частку ж сродкаў, якія, магчыма, паступяць, неабходна перакінуць на тэрміновае заканчэнне кацельні і інжынерных камунікацый, каб увесь комплекс здаць як след у наступным годзе. Калі школьны будынак хоць бы год пастаіць «незаселены», то з ім адбудзецца тое ж, што адбываецца сёння з недабудаваным 40-кватэрным домам для перасяленцаў у райцэнтры, дзе па начах жыўцом абдзіраюць электраправодку, раскрадаюць абсталяванне. Паўтарэння таго, што выявілася ў тым жа Дрыбіне, мы не жадаем.

Што тут запярэчыш? Менавіта да такіх «дрыбінскіх варыянтаў» і прыводзіць даўгабуд, які, між іншым, «арганізавалі» не ў райцэнтры, а ў сталіцы.

СТАРШЫНЯ КАЛГАСА «РАССВЕТ» Анатоль ПРОТАС, які ці не больш за іншых укладвае сіл у завяршэнне «школьнай эпапеі», у сваім гарачым маналогу, між іншым, падкрэсліў:

— Калі я пяць гадоў назад заступіў на старшынёўства, хто-ніхто шумеў: маўляў, навошта новая школа, у вёсцы 26 пустых кватэр, хутка ўся Сівіца разбяжыцца. Лухта ўсё гэта! Хоць і нялёгкія ў нас умовы жыцця, аднак усе вярнуліся, яшчэ каля двух дзесяткаў працаўнікоў просяцца ў калгас — толькі дай жыллё.

Сёння ў вёсцы больш як 70 дзяцей школьнага ўзросту, і колькасць іх павялічваецца. Калі няма нармальнай школы, а бацькі ўвесь дзень на рабоце, дык каго мы са сваіх дзяцей выхаваем? Якое будучае падрыхтуем для краіны?

Які гэта погляд на рэчы? Дзяржаўны? Мястэчковы? Вось і добра, што на Валожыншчыне маюцца такія людзі, якія імкнуцца пазбавіцца ўсіх гэтых даўгабудаў, дбаюць аб тым, каб народныя грошы, укладзеныя ў будаўніцтва, давалі аддачу, працавалі на карысць народа. Іх крытыкам, відаць, толькі і застаецца, што абвінавачваць гэтых людзей у мясцовым патрыятызме. Невядома, праўда, з якіх часоў гэтая з'ява стала «шкоднай»...

У час размоў з настаўнікамі Сівіцкай базавай школы, з кіраўніцтвам райаддзела народнай адукацыі было выказана колькі прапаноў па часоваму выйсцю з сітуацыі, бо інспекцыя дзяржпажнагляду,

Цэнтр гігіены і эпідэміялогіі зусім аб'ектыўна вынес рашэнне аб прыпыненні эксплуатацыі старога будынка. Дык дзе вучыць дзяцей сёлета? Магчыма, у больш свабодных сялянскіх хатах. Магчыма, кожны дзень вазіць іх за восем кіламетраў у перапоўненую школу пасёлка Івянец. А можа, у круглагадовы дзіцячы лагер у Налібоцкую пушчу (прыйшлі былыя партызанскія гады?).

Заставаўся варыянт, які выказваўся заўсёды апошнім. На яго, з нялёгкім сэрцам, у выніку і пайшлі ў раёне. Затраціўшы каля 20 мільёнаў рублёў, неяк падрамантавалі ў старой школе электраправодку, печы, паклалі падлогу. Што асаблівага можна было там зрабіць, калі «ўзрост» будынка такі, што нават дзверы ў ім засталіся яшчэ з тых самых «польскіх» часоў, гэта значыць — з 39-га года.

Пабачыў і я гэту «музейную» будыніну, з усімі яе «надзейнымі» канструкцыямі. Але дарэмна «накарквацъ» — душа не ляжыць. Дасць Бог, і правучацца там дзеці год без усякіх ЧП. Бо калі што-якое, то «крайніх-вінаватых» знойдуць адразу.

Імі, безумоўна, будуць не тыя высокапастаўленыя кіраўнікі, якія сваімі дзеяннямі (ці бяздзеяннем) па сутнасці і стварылі гэтую двухсэнсоўную сітуацыю. Што-што, а нашы чыноўнікі-гросмайстры заўсёды знойдуць ахвяру, каб падставіць яе замест сябе. Тут у іх «прафесіяналізму» не адымеш...

**Валерый ЧАРНЯЎСКІ,**
**спец. кар. «Звязды».**

**Сяргей ШУРАКОЎ:**

# «ТРЭБА, КАБ ПЕНСІЯ БЫЛА ДЛЯ ЧАЛАВЕКА НЕ ГОРАМ, А РАДАСЦЮ НОВАЙ ЯКАСЦІ ЖЫЦЦЯ»

**У больш багатых і цывілізаваных краінах самы жвавы і лёгкі на пад'ём — пенсіянерскі люд. Сівыя дзядкі і бабулі едуць ва ўсе канцы свету — да егіпецкіх пірамід, камчацкіх гейзераў ці грэнландскіх леднікоў... Яны могуць дазволіць сабе такую раскошу: з выхадам на пенсію кола іх інтарэсаў і фінансавых магчымасцей не толькі не звузілася, але нават значна пашырылася. Да сацыяльнай пенсіі дабавіліся выплаты з недзяржаўных пенсіённых фондаў, якія і дазваляюць пенсіянерам адчуваць сябе камфортна, не залежаць ні ад падачак дзяржавы, ні ад дапамогі ўласных дзяцей.**



У НАС СІТУАЦЫЯ зусім іншая. Узровень пенсіі такі, што чалавек нават не марыць пра замежныя турыстычныя вяжы, дай Бог назбіраць грошай на паездку да дзяцей у Жабінку, ці, наадварот, — з Жабінкі ў Мінск. Для многіх людзей ужо даўно стала зразумелым, што спадзяванні толькі на дзяржаву ў плане сацыяльнай абароны чалавека не маюць пад сабой трывалай глебы. Эканамічны крызіс, цяжкасці з бюджэтам адсоўваюць клопат пра чалавека на задні план. Патрэбна сістэма недзяржаўнага дадатковага пенсіённага забеспячэння, заснаваная на ўдзеле ў ёй саміх грамадзян.

І парасткі такой сістэмы ў краіне ўжо з'явіліся. У лютым 1995 года, напрыклад, быў зарэгістраваны «Народны пенсіённы фонд «Вест». На нашы пытанні адказвае старшыня праўлення фонду **С. Г. Шуракоў.**

**— Сяргей Генадзьевіч, прашу прабачыць за, можа, не зусім карэктныя пытанні, якія ўзнікнуць па ходу нашай гутаркі (што зробіш — работа такая), але мяне, як і сотні радавых грамадзян, цікавяць перш за ўсё ўмовы і гарантыі... Галоўная задача пенсіённага фонду «Вест» вызначана заснавальнікамі так: «доўгатэрміновае накапленне мэтавых пенсіённых узносаў і іх прырост для забеспячэння дадатковай пенсіяй удзельнікаў фонду». Накапленнне ўзносаў — гэта зразумела. А вось прырост узносаў... Ці не можа адбыцца так, што дзеля гэтага «прыросту» работнікі фонду кінуцца ў нейкую фінансавую авантуру і згубяць усе нашы накапленні?**

— Хтосьці слушна заўважыў: калі размова ідзе пра грошы і здароўе, некарэктных пытанняў да спецыялістаў не бывае. Ствараючы недзяржаўны пенсіённы фонд, мы цудоўна разумелі, што сітуацыя ў краіне, скандалы з фінансавымі пірамідамі патрабуюць надзвычай прадуманай канцэпцыі і нават філасофіі новага для нас спектра сацыяльных паслуг. Вось чаму мы выступаем за самы жорсткі дзяржаўны кантроль за работай такіх недзяржаўных утварэнняў, як пенсіённыя фонды. Той, хто хоча працаваць сумленна, на карысць нашым людзям, кантролю не баіцца. Мы баімся іншага — кампраметацыі добрай ідэі з боку людзей няўмелых, а можа, і несумленных. Вось адсюль, лічу, і вынікае задача дзяржавы: стварыць такое прававое поле, якое не дазволіла б разгарнуцца ні няўмелым, ні несумленным.

Хацеў бы падкрэсліць, што пенсіённы фонд — не камерцыйная арганізацыя, яму, у адрозненне ад банкаў, па статусу рызыкоўныя фінансавыя аперацыі не дазваляюцца. Размяшчэнне капіталаў робіцца пад, няхай і невялікія, але надзейныя працэнты ў стабільны ў нашых умовах дзяржаўны ашчадны банк, а таксама ў дзяржаўныя аблігацыі, гарантам якіх выступае зноў жа дзяржава. Інвестыцыйная дзейнасць дазволена пенсіённым фондам толькі ў рамках, вызначаных Дзяржстрахнаглядам пры Міністэрстве фінансаў краіны. І рамкі гэтыя вельмі жорсткія, што таксама з'яўляецца пэўнай гарантыяй для кліентаў фонду.

**— Я прачытаў, што падобны пенсіённы фонд стварыла група фізічных асоб. Як разумею, без вялікіх капіталаў. І пачынае збіраць сродкі ў грамадзян і прадпрыемстваў для выплаты будучых пенсій. Даверу да іх намаганняў у мяне мала. Хто з'яўляецца заснавальнікам вашага фонду?**

— Радавому чалавеку, не вельмі дасведчанаму ў юрыдычных тонкасцях стварэння і дзейнасці новых структур, я раіў бы ў першую чаргу знаёміцца з саставам заснавальнікаў. Ён дапаможа знайсці адказ на пытанне і аб сур'ёзнасці намераў, і аб гарантыях.

Заснавальнікамі нашага фонду выступілі Савет Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі, рэспубліканскі Савет беларускага прафсаюза работнікаў аўтамабільнага і сельскагаспадарчага машынабудавання, рэспубліканскі Камітэт беларускага прафсаюза работнікаў хімічных галін прамысловасці, рэспубліканскі Камітэт беларускага прафсаюза работнікаў аўтамабільнага транспарту і дарожнай гаспадаркі, рэспубліканскі камітэт беларускіх прафсаюзаў металістаў, цэнтральны Савет прафсаюзаў работнікаў акцыянернага таварыства «Атлант», мінскае вытворчае аб'яднанне «Мяса-малако», арэнднае прадпрыемства «Мінскі гарадскі малочны завод № 1», Віцебскае абласное аб'яднанне мяса-малочнай прамысловасці, страхавая кампанія «ВестАСКО». Дарэчы, кола заснавальнікаў будзе значна пашырана. У іх састаў увайсці пажадаў яшчэ цэлы шэраг прадпрыемстваў.

Прашу прабачыць за доўгі пералік, але ён быў неабходны для таго, каб зразумець, што ідэя недзяржаўнага пенсіённага страхавання ўзнікла не на голым месцы. Вельмі важна, на маю думку, тое, што гэтая ідэя ў нашым выпадку зыходзіць не толькі з боку, скажам, абаронцаў эканамічных інтарэсаў працоўных — прафсаюзаў, але і з боку работадаўцаў — дзяржаўных і недзяржаўных прадпрыемстваў і фірмаў. Яшчэ больш прынцыповым гэта павінна быць для дзяржавы. Чаму?

Сацыяльная стабільнасць і сацыяльны мір магчымы толькі ў такім грамадстве, у якім існуе кампраміс інтарэсаў розных груп і слаёў насельніцтва. Забастоўкі, галадоўкі, стыхійныя пратэсты, іншыя сацыяльныя канфлікты (тыя ж рэвалюцыі) — сведчанне таго, што гэты кампраміс парушаны. І дзяржава тут не можа быць староннім назіральнікам. Яна павінна ствараць умовы для сацыяльнага партнёрства, а не для сацыяльнай вайны. Дзейнасць пенсіённых фондаў, разумна арганізаваных і жорстка кантралюемых, можа быць прыкладам такога сацыяльнага партнёрства, калі тры бакі — наймальнікі рабочай сілы, прафсаюзы і самі працоўныя — аб'ядноўваюць свае намаганні дзеля забеспячэння спакойнай і шчаслівай старасці нашых людзей. А старымі мы будзем усе.

**— Якія вы бачыце нявырашаныя праблемы ў перыяд станаўлення пенсіённых фондаў?**

— Галоўная — адсутнасць адпаведнага закона, які рэгуляваў бы адносіны ўсіх удзельнікаў гэтай справы. Пакуль што мы маем, па сутнасці, адзін радок, прысвечаны пенсіённым фондам, у Законе «Аб страхаванні». Палажэнне, распрацаванае ў нетрах Міністэрства фінансаў, не вырашае праблемы, там шмат непрадуманага. Я, як юрыст, добра ведаю страхавое заканадаўства Германіі, іншых краін, і ўсюды недзяржаўныя пенсіённыя фонды карыстаюцца такімі ж ільготамі, як і дзяржаўныя інстытуты сацыяльнага забеспячэння. У цывілізаваных краінах падаткі бяруць з накопленых сум, а не з пералічаных прадпрыемствамі ў пенсіённы фонд на рахункі сваіх рабочых. Гэта нармальная практыка ва ўсім свеце, і выдумляць тут «веласіпед» не мае сэнсу.

Возьмем элементарную сітуацыю. Прадпрыемства пералічвае грошы ў фонд, дзе на кожнага працаўніка заведзена асабісты рахунак. І дзяржава бярэ з вас, а дакладней — з вашага рахунку падаходны падатак. Парадокс тут у тым, што прадпрыемства можа ваш рахунак перадаць іншаму работніку — такія ўмовы правілаў страхавання. У якіх сітуацыях? Скажам, у выпадку вашага звальнення з завода па асабістаму жаданню. І атрымліваецца, што вы плацілі падаходны падатак сваімі грашыма ў канчатковым выніку за іншага чалавека. Абсурднасць сітуацыі відавочная. Тым больш, што падатак бярэцца з сум, якімі вы яшчэ і не карысталіся.

Непакоіць і тое, што ў апошні час эканамічнае становішча прадпрыемстваў значна пагоршылася і яны амаль ужо не ў стане займацца сацыяльным страхаваннем сваіх работнікаў. Так, напрыклад, за 1994 год страхавая кампанія «ВестАСКО» — адзін з заснавальнікаў фонду — застрахавала да пенсіі каля 40 тысяч чалавек. (Дарэчы, у хуткім часе, згодна з дадаткамі ў Закон «Аб страхаванні», гэтыя накопленыя фонды будуць перададзены Народнаму пенсіённаму фонду «Вест». Менавіта так вызначана ў страхавым заканадаўстве). А ў 1995-м і ў пачатку гэтага года колькасць дагавораў значна зменшылася. Гэта трывожная тэндэнцыя. Яна сведчыць, што, з аднаго боку, дзяржава не можа забяспечыць сваім грамадзянам прыстойныя пенсіі, а з другога — недзяржаўныя пенсіённыя фонды развіваюцца вельмі марудна. Дарэчы, ва ўсіх постсавецкіх рэспубліках гэтая справа і ў заканадаўчым, і ў практычным плане пастаўлена значна лепш. У той жа Расіі, напрыклад, прыняты Закон аб недзяржаўным пенсіённым забеспячэнні і там дзейнічаюць больш як 1700 пенсіённых фондаў.

Было б наіўным з майго боку ўзнімаць у такой эканамічнай сітуацыі голас за прадастаўленне пенсіённым фондам ільгот, якімі яны карыстаюцца ў цывілізаваных краінах. Але мушу сказаць, што па дагавору з Расіяй наша заканадаўства, асабліва па сацыяльных праблемах, павінна быць уніфікавана. І тут марудзіць нельга, бо ў выніку церпяць нашы людзі. Хацелася б, каб дзяржава зразумела важнасць пытання і хоць 5 працэнтаў прыбытку прадпрыемстваў, які накіроўваецца на пенсіённае забеспячэнне работнікаў, не абкладала падаткамі. Гэтыя грошы вернуцца ў бюджэт выплатамі падаткаў страхавымі арганізацыямі і інвестыцыямі ў тую ж дзяржаву.

**— Сяргей Генадзьевіч, мне імпануе, што вы не пазбягаеце кантролю, а просіце яго. Думаю, гэта таксама паказчык сур'ёзнасці намераў. Але ж наш чыноўнік, а ў яго асобе і дзяржава, могуць устанавіць такія бар'еры, што ні адзін алімпіец не пераадолее.**

— І ўсё ж гэта лепш, чым бязладдзе. Сумна вядомыя «фінансавыя піраміды» ў Расіі і ў нас — гэта прыклад гульні не па правілах, калі заканадаўчая база недасканалая, альбо ўвогуле адсутнічае. А па-другое, я спадзяюся на здаровы сэнс нашых дзяржаўных мужоў. Адзін са станоўчых прыкладаў — прынятыя нядаўна Вярхоўным Саветам РБ дапаўненні ў Закон «Аб страхаванні». Прэзідэнт, на жаль, адхіліў ільготы па пенсіённаму страхаванню ў частцы падаходнага падатку і адправіў закон на дапрацоўку. Мы ходзім па свеце з працягнутай рукою і просім: «Дайце нам пазыку, укладвайце грошы ў нашу прамысловасць». Але не даюць і не ідуць. А тут у нас, у Беларусі, існуе свой патэнцыяльна магутны ўнутраны інвестар — свае людзі, свае прадпрыемствы. Вы ведаеце, што ў ЗША 80 працэнтаў усіх інвестыцый у эканоміку складаюць грошы страхавых кампаній? Дзяржава бярэ іх для сваіх патрэб, але ж яна выступае і гарантам таго, што з гэтымі грашыма нічога не здарыцца. Мы згодны працаваць нават на ўмовах, калі 100 працэнтаў капіталаў пенсіённага фонду будуць укладвацца ў дзяржаўныя і муніцыпальныя каштоўныя паперы. Хачу падкрэсліць: граматна наладжаная дзейнасць страхавых пенсіённых фондаў выгадная як дзяржаве, так і кожнаму яе грамадзяніну. Па разліках спецыялістаў, праз страхаванне можна штогод прыцягваць 10—12 мільярдаў долараў у рублёвым эквіваленце.

**— У ліку заснавальнікаў Народнага пенсіённага фонду «Вест» значыцца страхавая кампанія «ВестАСКО», якую вы ўзначальваеце...**

— Так, мы былі аднымі з ініцыятараў стварэння фонду. Лічу, што ў такой новай справе, як пенсіённыя фонды, павінны прысутнічаць высокакласныя спецыялісты. Наш пяцігадовы вопыт работы, адсутнасць прэтэнзій з боку кантралюючых органаў, высокі рэйтынг кампаніі сярод іншых — таксама гарантыя для нашых партнёраў і кліентаў. Не для пахвальбы, а проста для канстатацыі факта зазначу: нашы вядучыя спецыялісты маюць па дзве вышэйшыя адукацыі, некаторыя — класічнае фінансавае, страхавое. Веданне эканомікі, юрыспрудэнцыі, фінансаў, законаў кіравання — абавязковая ўмова, якую мы ставім для сваіх супрацоўнікаў.

Страхавая кампанія «ВестАСКО» забяспечыла пенсіённы фонд транспартам, камп'ютэрнай тэхнікай, іншымі неабходнымі рэчамі, без якіх арганізацыйны перыяд мог бы цягнуцца гадамі.

**— Зроблены першыя крокі. Што радуе, што засмучае?**

— Радуе тое, што ўсё больш і больш кіраўнікоў прадпрыемстваў, простых людзей разумее: з псіхалогіяй утрыманства нельга зрабіць шчаслівым ні сябе, ні сваіх дзяцей. Светлая будучыня, якую нам абяцалі ў далёкай-далёкай перспектыве, губляе сваю прывабнасць, калі ўспомніць, што чалавек жыве адзін раз.

А засмучае? Хоць мы працуем у асноўным з юрыдычнымі асобамі, прадпрыемствамі, але нашымі кліентамі з'яўляюцца і фізічныя асобы. Прыходзяць людзі пенсіённага ўзросту, якія хочуць укласці нейкую капейчыну, каб заўтра хоць крыху аблегчыць сваё існаванне. Вось гэта і засмучае. Таму што ў ідэале пенсіённы фонд — для маладых работнікаў. Каб яны ў старасці не апынуліся, як іх бацькі і дзяды, за рысай беднасці, за рысай чалавечай годнасці.

Дэвіз нашага пенсіённага фонду — «Даўгалецце — у дастатку!» Мы ўпэўнены: матэрыяльна забяспечаны ў старасці чалавек не губляе цікавасці да жыцця, ён застаецца аптымістам.

**— Якім капіталам валодае зараз Народны пенсіённы фонд «Вест»?**

— Статутны фонд складае 150 млн. рублёў, а рэзервы па назапашаных відах страхавання за першую палову 1996 года перавысілі 1 мільярд рублёў.

**— Сяргей Генадзьевіч, у нас з вамі атрымалася інтэрв'ю канцэптуальнага плана, што вельмі важна патэнцыяльным кліентам пенсіённага фонду «Вест». Але карысна і не менш цікава ведаць дэталі гэтай справы, растлумачыць людзям канкрэтныя варыянты пенсіённых схем, правілы страхавання. Шчыра кажучы, людзі аб гэтым не ведаюць амаль нічога. Спадзяюся, гэта стане прадметам наступнай размовы.**

— Дзякуй. Я згодзен.

**Гутарыў Міхаіл МІХАЕВІЧ.**

# 50 вядучых палітыкаў

## У Маскве і ў Мінску ўпэўнена лідзіруюць Барыс ЕЛЬЦЫН і Аляксандр ЛУКАШЭНКА,

***Аляксандр КІНСБУРСКІ — «Vox populi»,***

*Табліца 1.*

### 50 вядучых палітыкаў Беларусі ў ліпені

| №№ | Прозвішча, імя, імя па бацьку | Сярэдні бал | | Пасада |
|---|---|---|---|---|
| | | Ліпень | Чэрвень | |
| 1. | Лукашэнка Аляксандр Рыгоравіч | 6,79 | 6,73 | Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь |
| 2. | Шарэцкі Сямён Георгіевіч | 5,94 | 5,35 | Старшыня Вярхоўнага Савета, фракцыя аграрыяў |
| 3. | Карпенка Генадзь Дзмітрыевіч | 4,81 | 4,82 | Намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета, фракцыя «Грамадзянскае дзеянне» |
| 4. | Багданкевіч Станіслаў Антонавіч | 4,64 | 3,91 | Старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі, лідэр фракцыі «Грамадзянскае дзеянне» ў Вярхоўным Савеце |
| 5. | Ціхіня Валерый Гур'евіч | 4,62 | 4,67 | Старшыня Канстытуцыйнага суда |
| 6. | Замяталін Уладзімір Пятровіч | 4,15 | 4,09 | Намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта |
| 7. | Чыгір Міхаіл Мікалаевіч | 4,13 | 3,87 | Прэм'ер-міністр |
| 8-9. | Хадыка Юрый Віктаравіч | 4,06 | 4,02 | Намеснік старшыні Сойма Беларускага народнага фронту |
| 8-9. | Мясніковіч Міхаіл Уладзіміравіч | 4,06 | 4,45 | Кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта |
| 10. | Ціцянкоў Іван Іванавіч | 3,94 | 3,58 | Кіраўнік спраў Прэзідэнта |
| 11. | Шэйман Віктар Уладзіміравіч | 3,66 | 3,49 | Дзяржсакратар Савета бяспекі |
| 12. | Калякін Сяргей Іванавіч | 3,53 | 2,64 | Член Прэзідыума Вярхоўнага Савета, лідэр фракцыі камуністаў |
| 13. | Лябедзька Анатоль Уладзіміравіч | 3,51 | 3,44 | Дэпутат Вярхоўнага Савета, фракцыя «Грамадзянскае дзеянне» |
| 14. | Віннікава Тамара Дзмітрыеўна | 3,43 | 3,20 | Старшыня Нацыянальнага банка. |
| 15. | Бухвостаў Аляксандр Іванавіч | 3,36 | 2,95 | Дэпутат Вярхоўнага Савета, фракцыя «Саюз працы». Старшыня прафсаюза работнікаў аўтамабільнага і сельскагаспадарчага машынабудавання |
| 16-17. | Дабравольскі Аляксандр Альгертавіч | 3,34 | 3,69 | Дэпутат Вярхоўнага Савета, фракцыя «Грамадзянскае дзеянне». Намеснік старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі |
| 16-17. | Сянько Уладзімір Лявонавіч | 3,34 | 2,60 | Міністр замежных спраў |
| 18. | Шлындзікаў Васіль Міхайлавіч | 3,32 | 2,58 | Дэпутат Вярхоўнага Савета, фракцыя «Грамадзянскае дзеянне». Старшыня Камісіі па эканамічнай палітыцы і рэформах |
| 19. | Пазняк Зянон Станіслававіч | 3,21 | 3,31 | Лідэр Беларускага народнага фронту |
| 20. | Краўчанка Пётр Кузьміч | 3,13 | 3,27 | Дэпутат Вярхоўнага Савета, фракцыя «Саюз працы». Старшыня Камісіі па міжнародных справах |
| 21. | Ярмошын Уладзімір Васільевіч | 3,11 | 3,09 | Мэр Мінска |
| 22. | Агалец Валянцін Сцяпанавіч | 3,06 | 3,73 | Міністр унутраных спраў |
| 23-24. | Ганчар Віктар Іосіфавіч | 2,96 | 5,25 | Дэпутат Вярхоўнага Савета, фракцыя «Грамадзянскае дзеянне». Кіраўнік Эканамічнага суда СНД |
| 23-24. | Кісель Рыгор Леанідавіч | 2,96 | 3,40 | Старшыня Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі |
| 25. | Шушкевіч Станіслаў Станіслававіч | 2,94 | 2,64 | Дэпутат Вярхоўнага Савета, фракцыя «Грамадзянскае дзеянне» |
| 26. | Статкевіч Мікалай Віктаравіч | 2,91 | 1,53 | Старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі «Народная Грамада» |
| 27. | Баршчэўскі Лявон Пятровіч | 2,89 | 3,05 | Намеснік старшыні Беларускага народнага фронту |
| 28. | Посахаў Сяргей Аляксеевіч | 2,87 | 2,84 | Памочнік Прэзідэнта |
| 29. | Марыніч Міхаіл Афанасьевіч | 2,81 | 2,62 | Міністр знешніх эканамічных сувязей |
| 30. | Філарэт | 2,79 | 2,89 | Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі |
| 31. | Грыб Мечаслаў Іванавіч | 2,74 | 3,64 | Дэпутат Вярхоўнага Савета, фракцыя «Саюз працы» |
| 32-33. | Ганчарык Уладзімір Іванавіч | 2,72 | 2,35 | Дэпутат Вярхоўнага Савета, фракцыя «Згода». Старшыня Савета Федэрацыі прафсаюзаў |
| 32-33. | Гразнова Людміла Мікалаеўна | 2,72 | 2,91 | Дэпутат Вярхоўнага Савета, фракцыя «Грамадзянскае дзеянне» |
| 34-35. | Далгалёў Васіль Барысавіч | 2,70 | 2,24 | Віцэ-прэм'ер |
| 34-35. | Сініцын Леанід Георгіевіч | 2,70 | 2,02 | Віцэ-прэм'ер (да 30.08.96 г.) |
| 36. | Якубовіч Павел Ізотавіч | 2,57 | 2,71 | Галоўны рэдактар газеты «Советская Белоруссия». |
| 37. | Навумчык Сяргей Іосіфавіч | 2,55 | 2,16 | Прэс-сакратар Беларускага народнага фронту. |
| 38. | Латыпаў Урал Рамдракавіч | 2,51 | 2,27 | Кіраўнік сакратарыята — памочнік Прэзідэнта |
| 39. | Слука Алег Георгіевіч | 2,49 | 2,98 | Памочнік Прэзідэнта |
| 40. | Сазонаў Аляксандр Юр'евіч | 2,43 | 2,04 | Міністр прадпрымальніцтва і інвестыцый |
| 41. | Антановіч Іван Іванавіч | 2,38 | 2,13 | Намеснік міністра замежных спраў |
| 42. | Вячорка Вінцук Рыгоравіч | 2,37 | 2,36 | Намеснік старшыні Сойма Беларускага народнага фронту |
| 43. | Данейка Павел Уладзіміравіч | 2,36 | 2,69 | Дэпутат Вярхоўнага Савета, фракцыя «Грамадзянскае дзеянне» |
| 44. | Капітан Васіль Сцяпанавіч | 2,34 | 3,47 | Генеральны пракурор |
| 45. | Знавец Павел Кірылавіч | 2,30 | 2,89 | Дэпутат Вярхоўнага Савета, фракцыя «Саюз працы» |
| 46. | Абрамовіч Аляксандр Міхайлавіч | 2,23 | 1,80 | Намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта |
| 47. | Капітула Пётр Андрэевіч | 2,21 | 1,64 | Памочнік Прэзідэнта — начальнік аналітычнага цэнтра |
| 48. | Гаркун Уладзімір Гіляравіч | 2,19 | 2,00 | Віцэ-прэм'ер |
| 49-50. | Мацкевіч Уладзімір Аляксандравіч | 2,17 | 2,55 | Старшыня Камітэта дзяржаўнай бяспекі |
| 49-50. | Патупа Аляксандр Сяргеевіч | 2,17 | 2,10 | Віцэ-прэзідэнт Беларускага саюза прадпрымальнікаў |

**«Независимая газета», Служба «Vox populi», ТАА «Скарына», 1996 г.**

*Табліца 2.*

### 50 вядучых палітыкаў Расіі ў ліпені

| №№ | Прозвішча, імя, імя па бацьку | Сярэдні бал | | Пасада |
|---|---|---|---|---|
| | | Ліпень | Чэрвень | |
| 1. | Ельцын Барыс Мікалаевіч | 8,83 | 8,75 | Прэзідэнт Расіі |
| 2. | Чарнамырдзін Віктар Сцяпанавіч | 7,40 | 7,24 | Прэм'ер-міністр |
| 3. | Лужкоў Юрый Міхайлавіч | 7,29 | 7,94 | Мэр Масквы, член Савета Федэрацыі |
| 4. | Чубайс Анатоль Барысавіч | 7,22 | 5,49 | Кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта |
| 5. | Лебедзь Аляксандр Іванавіч | 6,91 | 7,71 | Сакратар Савета бяспекі. Памочнік Прэзідэнта па нацыянальнай бяспецы. Дэпутат Дзяржаўнай думы |
| 6. | Зюганаў Генадзь Андрэевіч | 6,16 | 7,41 | Старшыня КПРФ, лідэр фракцыі камуністаў у Дзяржаўнай думе |
| 7. | Ілюшын Віктар Васільевіч | 5,55 | 5,86 | Былы першы памочнік Прэзідэнта |
| 8. | Прымакоў Яўген Максімавіч | 5,16 | 4,94 | Міністр замежных спраў |
| 9. | Строеў Ягор Сямёнавіч | 5,00 | 5,18 | Старшыня Савета Федэрацыі, губернатар Арлоўскай вобласці |
| 10. | Радзівонаў Ігар Мікалаевіч | 4,96 | - | Міністр абароны |
| 11. | Дубінін Сяргей Канстанцінавіч | 4,88 | 4,71 | Старшыня Цэнтральнага банка |
| 12. | Рабаў Мікалай Цімафеевіч | 4,75 | 5,42 | Старшыня Цэнтрвыбаркома |
| 13. | Кулікоў Анатоль Сяргеевіч | 4,73 | 4,52 | Міністр унутраных спраў |
| 14. | Ліўшыц Аляксандр Якаўлевіч | 4,69 | 4,76 | Памочнік Прэзідэнта |
| 15. | Селязнёў Генадзь Мікалаевіч | 4,67 | 4,52 | Старшыня Дзяржаўнай думы, фракцыя камуністаў |
| 16. | Сатараў Георгій Аляксандравіч | 4,54 | 4,92 | Памочнік прэзідэнта. |
| 17. | Яўлінскі Георгій Аляксеевіч | 4,42 | 5,94 | Лідэр фракцыі «ЯБЛоко» ў Дзяржаўнай думе |
| 18. | Малашэнка Ігар Яўгенавіч | 4,40 | 4,35 | Кіраўнік тэлекампаніі НТБ |
| 19. | Рохлін Леў Якаўлевіч | 4,31 | 2,76 | Дэпутат Дзяржаўнай думы, фракцыя «Наш дом — Расія», старшыня Камітэта па абароне |
| 20. | Скуратаў Юрый Ілыч | 4,18 | 4,15 | Генеральны пракурор |
| 21. | Алексій II | 4,13 | 4,40 | Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі |
| 22. | Заўгаеў Доку Гапуравіч | 4,08 | 4,00 | Кіраўнік Чачэнскай Рэспублікі, член Савета Федэрацыі |
| 23. | Масхадаў Аслан Аліевіч | 4,06 | 4,06 | Начальнік штаба ўзброеных фарміраванняў апазіцыі Чачэнскай Рэспублікі |
| 24. | Жырыноўскі Уладзімір Вольфавіч | 3,95 | 4,28 | Старшыня ЛДПР, лідэр фракцыі ЛДПР у Дзяржаўнай думе |
| 25. | Каданнікаў Уладзімір Васільевіч | 3,91 | 4,22 | Першы віцэ-прэм'ер |
| 26. | Шаймієў Мінцімер Шарыпавіч | 3,89 | 3,96 | Прэзідэнт Рэспублікі Татарстан, член Савета Федэрацыі |
| 27. | Ясін Яўген Рыгоравіч | 3,85 | 3,45 | Міністр эканомікі |
| 28. | Кісялёў Яўген Аляксеевіч | 3,83 | 3,96 | Вядучы тэлепраграмы «Итоги», віцэ-прэзідэнт тэлекампаніі НТБ |
| 29. | Панскоў Уладзімір Георгіевіч | 3,79 | 3,92 | Міністр фінансаў |
| 30. | Казакоў Аляксандр Іванавіч | 3,70 | 3,08 | Старшыня Дзяржкаммаёмасці |
| 31. | Нямцоў Барыс Яфімавіч | 3,67 | 4,27 | Губернатар Ніжагародскай вобласці, член Савета Федэрацыі |
| 32-33. | Бяляеў Сяргей Георгіевіч | 3,63 | 3,52 | Дэпутат Дзяржаўнай думы. Лідэр фракцыі «Наш дом — Расія» |
| 32-33. | Нікалаеў Андрэй Іванавіч | 3,63 | 3,83 | Дырэктар Федэральнай пагранічнай службы |
| 34-35. | Росель Эдуард Эдгардавіч | 3,60 | 4,04 | Губернатар Свярдлоўскай вобласці, член Савета Федэрацыі |
| 34-35. | Тарпішчаў Шаміль Анвяравіч | 3,60 | 3,91 | Старшыня Дзяржаўнага камітэта па фізічнай культуры і турызму, саветнік Прэзідэнта па спорту |
| 36. | Лобаў Алег Іванавіч | 3,54 | 3,76 | Першы віцэ-прэм'ер |
| 37. | Міхайлаў Вячаслаў Аляксандравіч | 3,52 | 3,74 | Міністр па справах нацыянальнасцей |
| 38-39. | Ілюхін Віктар Іванавіч | 3,51 | 3,65 | Дэпутат Дзяржаўнай думы, фракцыя камуністаў, старшыня Камітэта па бяспецы |
| 38-39. | Шохін Аляксандр Мікалаевіч | 3,51 | 3,43 | Першы намеснік Старшыні Дзяржаўнай думы, фракцыя «Наш дом — Расія». |
| 40. | Каржакоў Аляксандр Васільевіч | 3,43 | 5,53 | Былы начальнік службы бяспекі Прэзідэнта |
| 41. | Філатаў Сяргей Аляксандравіч | 3,40 | 4,08 | Былы кіраўнік передвыбарнага штаба Б. Ельцына |
| 42. | Рахімаў Муртаза Губайдулавіч | 3,37 | 3,09 | Прэзідэнт Рэспублікі Башкартастан, член Савета Федэрацыі |
| 43. | Задорнаў Міхаіл Міхайлавіч | 3,31 | 2,69 | Дэпутат Дзяржаўнай думы, фракцыя «ЯБЛоко», старшыня Каміэта па бюджэту |
| 44. | Сагалаеў Эдуард Міхайлавіч | 3,27 | 3,34 | Старшыня Усерасійскай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі |
| 45. | Купцоў Валянцін Аляксандравіч | 3,26 | 4,27 | Дэпутат Дзяржаўнай думы, фракцыя камуністаў, першы намеснік старшыні КПРФ |
| 46. | Наздраценка Яўген Іванавіч | 3,19 | 3,54 | Губернатар Прыморскага краю, член Савета Федэрацыі |
| 47. | Калеснікаў Міхаіл Пятровіч | 3,18 | 3,98 | Начальнк Генеральнага штаба |
| 48. | Анпілаў Віктар Іванавіч | 3,13 | 3,51 | Лідэр руху «Трудовая Россия» |
| 49. | Ніканаў Вячаслаў Аляксеевіч | 3,11 | 3,04 | Былы намеснік кіраўніка передвыбарнага штаба Б. Ельцына |
| 50. | Бабічаў Уладзімір Сцяпанавіч | 3,09 | 3,00 | Кіраўнік апарату ўрада Расіі |

**«Независимая газета», Служба «Vox populi», 1996 г.**

***ПОГЛЯД***

# ДЗІЎНЫ КЛОПАТ ПРА КУЛЬТУРУ

## *або Добрая міна пры дрэннай гульні*

СВОЙ АРТЫКУЛ «Гісторыя з энцыклапедыяй, або «Чачэнскі сіндром»(?) у беларускай навуцы», надрукаваны нядаўна ў газеце «Звязда», Андрэй Савіцкі пачынае са слоў аб беларускай культуры. Паняццем «культура» ён аперыруе як галоўным козырам і далей, на працягу ўсяго артыкула. Паслядоўна, з заўзятасцю культуртрэгерскага кшталту. На нейкі момант можа нават здацца, што чалавек сапраўды хварэе душой за нашу культуру, шчыра руліцца пра яе стан, яе развіццё (гэтыя словы мільгаюць у артыкуле).

На жаль, гэта не так. У тэксце адно, у падтэксце другое. І ўжо з першых, зноў-такі, радкоў публікацыі робіцца відавочным, што нам прапануецца своеасаблівы ілюзіён, што ў сапраўднасці аўтар дбае не пра культуру, заняты не культуралагічнымі клопатамі, а ўзяўся за пяро з іншай зусім мэтай.

Доказы? Іх шукаць не трэба. Яны на паверхні.

Па-першае, не мае нічога агульнага з культурай, з культурнай і навуковай дзейнасцю тая непрыглядная валтузня, якую распачалі пэўныя дзеячы навукі і культуры вакол энцыклапедычнага выдавецтва і выдадзеных ім першых тамоў «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі» і аднатомнага даведніка «Беларусь» і да якой (валтузні) рашуча далучаецца А. Савіцкі. Сапраўды, што могуць мець агульнага з сапраўднай культурнай і навукова-даследчыцкай працай процістаянне нацыянальна-культурнаму адраджэнню, шальмаванне нацыянальна-дзяржаўнай канцэпцыі гісторыі і гістарычнай адукацыі, палітычныя абвінавачанні, інсінуацыі, ярлыкі?

Па-другое. Калі б А. Савіцкі сапраўды клапаціўся пра лёс беларускай культуры і зыходзіў менавіта з такой пазіцыі, то не мог бы не ўбачыць і не ацаніць прынцыповую розніцу — у плане адносінаў да культуры — паміж калектыўнымі лістамі, што друкаваліся пад крыклівымі загалоўкамі накшталт «Работа по восстановлению исторической правды подвергается яростному сопротивлению со стороны национал-экстремистов, претендующих на истину в последней инстанции»(?) і «Заявай Рады Беларускай асацыяцыі гісторыкаў» або лістом «Ці могуць усе быць гісторыкамі?». Не мог бы не адзначыць агрэсіўна-наступальны, далёкі ад навукова-аб'ектыўнага падыходу тон першых і абаронцы (не без натуральнага ў такім разе пратэсту), узважаны і карэктны тон другіх. Не мог бы не пагадзіцца з наступнай, напрыклад, бясспрэчнай высновай: «Толькі свабодны, шырокі і ўсебаковы абмен думкамі і іх абмеркаванне ў межах прынятых у навуцы этычных нормаў, аналіз і супастаўленне навуковых канцэпцый і падыходаў, што грунтуюцца на гістарычных фактах, сур'ёзных распрацоўках і даследаваннях, дазволяць аднавіць гістарычную праўду». Так, не мог бы не пагадзіцца з гэтым разважлівым, канструктыўным сцвярджэннем гісторыкаў (з чым тут можна не пагаджацца?), але пры агаворанай вышэй умове — пры сапраўдным, а не ўяўным клопаце аб развіцці нашай навукі і культуры.

І што яшчэ характэрна. У адным выпадку А. Савіцкі не бачыць розніцу, але ў другім, наадварот, бачыць, як кажуць адэсіты, дзве вялікія розніцы. На яго думку, тыя адкрытыя лісты, якія пішуць «барацьбіты за дэмакратыю і беларускасць», негатыўна адбіваюцца на стане культуры, а вось тыя, што выходзяць з-пад пяра членаў так званага аб'яднання «Гістарычныя веды», ну вельмі ўжо спрыяюць развіццю культуры, бо ў іх, гэтых калектыўных лістах, як сцвярджае ўпэўнена А. Савіцкі, «прапануецца сур'ёзнае стаўленне да крытычнага стану беларускай культуры». І смех, і грэх. Дзіўнае ўяўленне пра культуру, дзіўны спосаб абараняць яе. Мімаволі звяртаеш тут увагу і на наступны цікавы момант: аказваецца, дэмакратыю і беларускасць А. Савіцкі не толькі не ўключае ў рэцэпт, па якім канструіруе сваю мадэль культуры, але, падобна, нават лічыць іх антыподамі апошняй. Вось якая тут культуралогія.

Далей. Шматзначнае паняцце «культура», як вядома, уключае ў сябе і сферу духоўнага жыцця, формы і ўзровень узаемаадносінаў паміж членамі соцыума, стыль людскога сумоўя, манеру весці дыялог, палеміку, ставіцца да апанента. Не лепшым чынам выглядае, артыкул А. Савіцкага і з гэтага пункту гледжання. Наколькі яго аўтар кранальна замілоўваецца «сваімі», настолькі прадузяты і бесцырымонны ён у дачыненні да «чужых» — «барацьбітоў за дэмакратыю і беларускасць», «прагрэсістаў» (гэтыя словы ён ужывае не інакш, як у здзеклівым двукоссі). Якія толькі ярлыкі ён не навешвае апошнім! Якія толькі «сіндромы» не прыпісвае ім! «Сіндром рэферэндуму», «сіндром жданаўскай інвектывы» і нават, як мы ўжо бачылі, вынесены ў загаловак... «чачэнскі сіндром». Алах акбар!.. Дагаворваецца да таго, што менавіта яны, гэтыя праклятыя «барацьбіты за дэмакратыю і беларускасць», сваімі калектыўнымі лістамі «нішчаць не толькі беларускую культуру, але і ўвогуле само паняцце «культура». Вось так. Ні больш, ні менш.

З асаблівай злосцю накідваецца аўтар артыкула на былога спікера, дэпутата Вярхоўнага Савета Беларусі Мечаслава Грыба. Размазвае яго, што называецца, па сцяне. Як гэта, маўляў, ён, «былы член КПБ і буйны міліцэйскі чыноўнік», пасмеў не пагадзіцца з заявай аднадумцаў А. Савіцкага і загаварыў пра тое, што хоча быць свабодным грамадзянінам свабоднай, суверэннай Беларусі! Такога А. Савіцкі не даруе.

Тут ужо не пра культуру трэба гаварыць, а пра звычайную логіку і элементарную этыку.

Свой артыкул А. Савіцкі заканчвае на эмацыянальна-пафаснай ноце: «сорамна за беларускую культуру, сумна і брыдка...» Культура, як ужо адзначалася, тут ні пры чым. А вось што датычыць майго адчування, то скажу проста, без тэатральнага пафасу, адным самабытным беларускім словам: ад артыкула гэтага мне стала ніякавата.

**Анатоль ВЯРЦІНСКІ.**

# Беларусі, Расіі і Украіны ў ліпені

## а ў Кіеве Леанід КУЧМА саступіў першынство Паўлу ЛАЗАРЭНКУ.

***Міхаіл ПЕТРАЧОЎ — «Независимая газета».***

*Табліца 3.*

### 50 вядучых палітыкаў Украіны ў ліпені

| №№ | Прозвішча, імя, імя па бацьку | Сярэдні бал | | Пасада |
|---|---|---|---|---|
| | | Ліпень | Чэрвень | |
| 1. | Лазарэнка Павел Іванавіч | 8,02 | 7,53 | Прэм'ер-міністр |
| 2. | Кучма Леанід Данілавіч | 7,91 | 8,39 | Прэзідэнт Украіны |
| 3. | Мароз Аляксандр Аляксандравіч | 7,08 | 7,95 | Старшыня Вярхоўнай Рады |
| 4. | Гарбулін Уладзімір Паўлавіч | 6,47 | 7,12 | Сакратар Савета нацыянальнай бяспекі пры Прэзідэнце, саветнік Прэзідэнта па нацыянальнай бяспецы |
| 5. | Табачнік Дзмітрый Уладзіміравіч | 6,27 | 6,68 | Кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта |
| 6. | Юшчанка Віктар Андрэевіч | 5,55 | 5,40 | Старшыня праўлення Нацыянальнага банка |
| 7. | Удовенка Генадзь Іосіфавіч | 4,91 | 4,45 | Міністр замежных спраў |
| 8. | Дурдзінец Васіль Васільевіч | 4,75 | 4,22 | Першы віцэ-прэм'ер (з 12.07) |
| 9. | Радчанка Уладзімір Іванавіч | 4,37 | 4,35 | Старшыня Службы бяспекі Украіны |
| 10. | Пуставойценка Валерый Паўлавіч | 4,25 | 4,75 | Міністр Кабінета Міністраў |
| 11. | Краўчанка Юрый Фёдаравіч | 4,14 | 3,62 | Міністр унутраных спраў |
| 12. | Галаваты Сяргей Пятровіч | 4,08 | 4,02 | Міністр юстыцыі |
| 13. | Сіманенка Пётр Мікалаевіч | 4,00 | 5,15 | Лідэр кампартыі, дэпутат Вярхоўнай Рады |
| 14. | Ткачэнка Аляксандр Мікалаевіч | 3,94 | 3,92 | Намеснік Старшыні Вярхоўнай Рады |
| 15-16. | Кінах Анатоль Кірылавіч | 3,91 | 3,63 | Віцэ-прэм'ер |
| 15-16. | Шчэрбань Уладзімір Пятровіч | 3,91 | 4,12 | Дэпутат Вярхоўнай Рады, лідэр Ліберальнай партыі |
| 17. | Чарнавіл Вячаслаў Максімавіч | 3,77 | 4,51 | Дэпутат Вярхоўнай Рады, лідэр Народнага руху |
| 18. | Еханураў Юрый Іванавіч | 3,66 | 3,57 | Старшыня фонду Дзяржмаёмасці |
| 19. | Шпек Раман Васільевіч | 3,57 | 3,51 | Старшыня нацыянальнага агенцтва па рэканструкцыі і развіццю |
| 20. | Варсінаў Рыгор Трафімавіч | 3,48 | 3,57 | Генеральны пракурор |
| 21. | Пінзенік Віктар Міхайлавіч | 3,41 | 3,39 | Віцэ-прэм'ер, дэпутат Вярхоўнай Рады |
| 22. | Марчук Яўген Кірылавіч | 3,36 | 4,36 | Дэпутат Вярхоўнай Рады |
| 23. | Емец Аляксандр Іванавіч | 3,33 | 4,85 | Віцэ-прэм'ер, дэпутат Вярхоўнай Рады |
| 24-25. | Асыка Сяргей Рыгоравіч | 3,32 | 3,89 | В.а. міністра знешнеэканамічных сувязей і гандлю |
| 24-25. | Сірата Міхаіл Дзмітрыевіч | 3,32 | 5,17 | Дэпутат Вярхоўнай Рады, лідэр фракцыі «Цэнтр» |
| 26. | Уладзімір | 3,30 | 2,81 | Мітрапаліт Кіеўскі і ўсяе Украіны (УПЦ Маскоўскага Патрыярхата). |
| 27. | Мацвіенка Анатоль Сяргеевіч | 3,14 | 3,47 | Лідэр Народна-дэмакратычнай партыі, кіраўнік адміністрацыі Вінніцкай вобласці |
| 28. | Кулік Зіновій Уладзіміравіч | 3,11 | 3,75 | Старшыня Дзяржкамітэта па тэле-і радыёвяшчанню |
| 29. | Кузьмук Аляксандр Іванавіч | 3,07 | - | Міністр абароны (з 11.07) |
| 30. | Дзёмін Алег Аляксеевіч | 3,06 | 3,24 | Намеснік Старшыні Вярхоўнай рады, кіраўнік адміністрацыі Харкаўскай вобласці |
| 31. | Курас Іван Фёдаравіч | 3,05 | 3,02 | Віцэ-прэм'ер-міністр |
| 32. | Краўчук Леанід Макаравіч | 3,02 | 3,90 | Дэпутат Вярхоўнай Рады |
| 33. | Палякоў Сяргей Васільевіч | 2,92 | - | Кіраўнік адміністрацыі Данецкай вобласці (з 18.07 да таго — міністр вугальнай прамысловасці) |
| 34-35. | Собалеў Сяргей Уладзіслававіч | 2,91 | 3,29 | Дэпутат Вярхоўнай Рады, лідэр фракцыі «Рэформы» |
| 34-35. | Стратовіч Уладзімір Мікалаевіч | 2,91 | 3,60 | Старшыня Камісіі Вярхоўнай Рады па пытаннях прававой палітыкі і судова-прававой рэформы |
| 36. | Емец Іван Рыгоравіч | 2,84 | - | Старшыня Цэнтрвыбаркома |
| 37. | Гурвіц Эдуард Іосіфавіч | 2,82 | 2,97 | Мэр Адэсы, дэпутат Вярхоўнай Рады |
| 38. | Супрунюк Яўген Уладзіміравіч | 2,81 | 3,24 | Старшыня Вярхоўнага Савета Аўтаномнай Рэспублікі Крым |
| 39. | Гецьман Вадзім Пятровіч | 2,80 | 2,80 | Дэпутат Вярхоўнай Рады, лідэр фракцыі «Незалежныя» |
| 40. | Алейнік Барыс Ільіч | 2,75 | 2,75 | Старшыня Камісіі Вярхоўнай Рады па замежных справах і сувязях з СНД |
| 41. | Чыж Іван Сяргеевіч | 2,70 | 3,41 | Дэпутат Вярхоўнай Рады, лідэр фракцыі Сацыялістычнай партыі |
| 42. | Вітрэнка Наталля Міхайлаўна | 2,69 | 2,82 | Старшыня Прагрэсіўнай сацыялістычнай партыі Украіны, дэпутат Вярхоўнай Рады |
| 43-44. | Амельчанка Аляксандр Аляксандравіч | 2,68 | 2,58 | Кіраўнік дзяржадміністрацыі Кіева |
| 43-44. | Філарэт | 2,68 | 3,02 | Патрыярх Кіеўскі і ўсяе Украіны—Русі (УПЦ Кіеўскага Патрыярхата) |
| 45. | Лаўрыновіч Аляксандр Уладзіміравіч | 2,65 | 3,90 | Дэпутат Вярхоўнай Рады, каардынатар фракцыі Народнага руху |
| 46. | Дзяркач Леанід Васільевіч | 2,64 | 2,65 | Старшыня Дзяржаўнага мытнага камітэта |
| 47-48. | Кушнароў Яўген Пятровіч | 2,63 | 3,02 | Мэр Харкава |
| 47-48. | Тарасюк Барыс Іванавіч | 2,63 | 2,62 | Пасол Украіны ў краінах Бенілюкса і ў ЕС |
| 49-50. | Буткевіч Уладзімір Рыгоравіч | 2,62 | 2,71 | Старшыня Камісіі ВР па пытаннях правоў чалавека, нацыянальных меншасцей і міжнацыянальных адносінаў |
| 49-50. | Цярохін Сяргей Анатольевіч | 2,62 | 2,62 | Дэпутат Вярхоўнай Рады, член фракцыі «Рэформы» |

**«Независимая газета», Служба «Vox populi», КЦПІК 1996 г.**

*Табліца 4.*

### Службовая структура палітычнай эліты Беларусі, Расіі і Украіны ў ліпені (па рэйтынгу 50 вядучых палітыкаў)

| Службовыя групы дзяржаўных дзеячаў | Беларусь | | Расія | | Украіна | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Ліпень | Чэрвень | Ліпень | Чэрвень | Ліпень | Чэрвень |
| 1. Дэпутаты вышэйшых органаў заканадаўчай улады (Вярхоўнага Савета, Дзяржаўнай Думы і Вярхоўнай Рады) | 16 | 20 | 10 | 6 | 17 | 16 |
| 2. Прадстаўнікі Адміністрацыі Прэзідэнта і іншых структур прэзідэнцкай улады | 10 | 8 | 7/1 | 8/1 | 3 | 6/1 |
| 3. Члены ўрада, уключаючы кіраўнікоў сілавых ведамстваў | 10 | 10 | 14 | 15 | 17/2 | 17/8 |
| 4. Кіраўнікі мясцовых органаў улады: гарадскога, абласнога (а ў Расіі і на Украіне — рэспубліканскага) звяна | 1 | 1 | 9 | 10 | 7/2 | 7/3 |
| 5. Прадстаўнікі судовых органаў, пракуратуры і кантрольнай палаты | 2 | 2 | 1 | 1 | 1 | 1 |
| 6. Кіраўнікі фінансавых структур і прадпрымальніцкіх арганізацый | 2 | 1 | 1 | 1 | 1 | 1 |
| 7. Прадстаўнікі рэлігійных арганізацый | 1 | 1 | 1 | 1 | 2 | 2 |
| 8. Кіраўнікі сродкаў масавай інфармацыі | 2 | 2 | 3 | 2 | 1 | 1 |
| 9. Лідэры непарламенцкіх партый | 6 | 5 | 1 | 1 | - | - |
| 10. Прадстаўнікі іншых дзяржаўных і грамадскіх структур | - | - | 3 | 3 | 1 | - |
| **Усяго:** | **50** | **50** | **50** | **50** | **50** | **51** |

***Заўвага:*** *у назоўніку дробу ўказваецца, колькі дадзеных кіраўнікоў цэнтральных і мясцовых органаў выканаўчай улады адначасова з'яўляюцца дэпутатамі парламента.*

**Служба вывучэння грамадскай думкі «Vox populi» і «Независимая газета» (Масква) разам з фірмай «Скарына» (Мінск) і Цэнтрам палітычных даследаванняў і канфліктапогіі (Кіеў) працягваюць вызначэнне 50 найбольш уплывовых палітыкаў Беларусі, Расіі і Украіны па выніках штомесячнага апытання экспертаў.**

У прадстаўленых табліцах 1, 2 і 3 указаны: рангавае становішча вядучых палітыкаў Беларусі, Расіі і Украіны (з 1-га па 50-е) і сярэдні бал, які фіксуе ступень уплыву кожнага на ўнутраную і знешнюю палітыку іх краін у мінулым месяцы. Для ацэнкі меры ўплывовасці выкарыстоўвалася 10-бальная шкала, дзе «10» азначае максімальную, а «1» — мінімальную ступень уздзеяння. Калі палітык у адпаведным, на думку экспертаў, наогул, не аказаў ніякага ўплыву на палітычную сітуацыю ў сваёй краіне, дык яму выстаўлялася нулявая ацэнка.

У папярэдніх спісах для вызначэння 50 найбольш уплывовых палітыкаў былі прадстаўлены найбольш прыметныя фігуры заканадаўчай, выканаўчай і судовай уладаў трох краін, лідэры вядучых палітычных партый і грамадскіх арганізацый, вядомыя рэлігійныя дзеячы, рэгіянальныя кіраўнікі, якія дзейнічаюць на агульнадзяржаўным узроўні. Меру іх уплывовасці вызначалі ў Мінску — 47, у Маскве — 55, а ў Кіеве — 42 эксперты. Гэта кіраўнікі сродкаў масавай інфармацыі, палітычныя аглядальнікі і вядучыя палітолагі. У апытанні прымалі ўдзел эксперты рознай (ліберальнай, нацыянал-дэмакратычнай, цэнтрысцкай і сацыялістычнай) арыентацыі.

У Беларусі апытанне праводзілася з 23 па 25 ліпеня, у Расіі — з 22 па 25, а на Украіне — з 27 ліпеня па 4 жніўня.

Спіс 50 вядучых палітыкаў Рэспублікі Беларусь штомесяц публікуецца ў газеце «Имя», а Расіі і Украіны — у «Независимой газете» (Масква). На падставе гэтых публікацый, спецыяльна для «Звязды» рыхтуецца падагульняючы матэрыял аб палітыках трох брацкіх славянскіх дзяржаў.

Дзве акалічнасці ў ліпені вызначылі характар і дынаміку змяненняў на расійскім палітычным алімпе. Па-першае, перавыбранне Барыса Ельцына Прэзідэнтам на другі тэрмін, а, па-другое, фарміраванне ўрада. Па выніках праведзенай экспертызы Барыс Ельцын захаваў сваё палітычнае лідэрства, больш таго, яго рэйтынг у ліпені нават крыху вырас. Гэта гаворыць аб тым, што насуперак чаканням адных і апасенням іншых, Прэзідэнт захаваў высокі ўзровень палітычнай уплывовасці.

Істотныя змяненні зафіксаваны ў тройцы палітычных лідэраў, што ідуць непасрэдна за Прэзідэнтам. З 5-га на 2-е месца перамясціўся без пяці хвілін прэм'ер будучага ўрада Віктар Чарнамырдзін, пацясніўшы на 3-е месца зноў перавыбранага мэра сталіцы Юрыя Лужкова. 4-е заняў новы кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта РФ Анатоль Чубайс, які павялічыў ступень свайго ўплыву, па ацэнках экспертаў, адразу амаль на 2 балы (+1,75). Гэта найбольш высокі паказчык росту палітычнай уплывовасці, які можна параўнаць хіба толькі з узлётам нядаўна назначанага міністра абароны Ігара Радзівонава, заняўшага ў ліпені 10-е месца (які да таго ні разу не ўключаўся ў спіс вядучых палітыкаў). «Бронзавы прызёр» першага тура прэзідэнцкіх выбараў, новы сакратар Савета бяспекі РФ Аляксандр Лебедзь у ліпені толькі 5-ы, хоць месяцам раней займаў 3-і радок і ў той момант успрымаўся ў якасці правай рукі Прэзідэнта.

У ліпені, па выніках экспертнага апытання, у першай дзесятцы вядучых палітыкаў Рэспублікі Беларусь даволі выразна выдзеліліся два галоўныя фаварыты і дзве асноўныя лідзіруючыя групы.

Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка з моманту пачатку апытання нязменна займае першае месца на алімпе ўлады. У гэтым годзе кіраўнік дзяржавы толькі двойчы не здолеў адарвацца ад сваіх сапернікаў больш чым на адзін бал. (Падобная дыстанцыя ў ніжняй частцы спіса звычайна раздзяляе палітыкаў, якія займаюць дваццатае і пяцідзесятае месцы.) Старшыня Вярхоўнага Савета Сямён Шарэцкі ўпершыню ўзняўся на другое месца ў чэрвені, а ў ліпені ён трывала замацаваўся на дасягнутым рубяжы і значна апярэдзіў усіх іншых палітыкаў.

У мінулым месяцы разам з двума вышэйшымі кіраўнікамі дзяржавы ў першую пяцёрку вядучых палітыкаў, з вельмі блізкімі вынікамі, таксама ўвайшлі намеснік старшыні Вярхоўнага Савета Генадзь Карпенка, лідэр парламенцкай фракцыі «Грамадзянскае дзеянне» Станіслаў Багданкевіч і старшыня Канстытуцыйнага суда Валерый Ціхіня.

Першую дзесятку замыкаюць пяцёра палітыкаў з амаль аднолькавымі паказчыкамі. У гэтую групу лідэраў другога эшалона ўвайшлі намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Уладзімір Замяталін, прэм'ер-міністр Міхаіл Чыгір, намеснік старшыні Сойма Беларускага народнага фронту Юрый Хадыка, кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта Міхаіл Мясніковіч і кіраўнік спраў Прэзідэнта Іван Ціцянкоў. У ліпені з першай дзесяткі выбыў Віктар Ганчар, і вакантнае месца заняў Іван Ціцянкоў.

У ліпені з «вышэйшай лігі» беларускай палітыкі выбылі сем дзяржаўных дзеячаў: першы намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета Васіль Новікаў, выканаўчы сакратар СНД Іван Каратчэня, першы намеснік міністра замежных спраў Валерый Цапкала, намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета Юрый Малумаў, лідэр парламенцкай фракцыі «Згода» Уладзімір Канаплёў, міністр абароны Леанід Мальцаў і старшыня Дзяржаўнага камітэта па друку Уладзімір Бельскі. Такім чынам, са спіса вядучых палітыкаў у мінулым месяцы выбылі адразу тры члены Прэзідыума Вярхоўнага Савета і адзін сілавы міністр.

У ліпені палітычнымі «зоркамі» месяца, чый рэйтынг істотна павысіўся, сталі кіраўнікі шэрага партый, якія падпісалі зварот да народа з нагоды палітычнай і эканамічнай сітуацыі ў краіне (Сямён Шарэцкі, Станіслаў Багданкевіч, Сяргей Калякін, Аляксандр Бухвостаў, Мікалай Статкевіч), а таксама некаторыя іншыя палітыкі. Усяго ў спіс вядучых палітыкаў Рэспублікі Беларусь у ліпені ўвайшлі 16 дэпутатаў Вярхоўнага Савета, 10 кіраўнікоў прэзідэнцкіх структур, 10 членаў урада і 14 прадстаўнікоў іншых дзяржаўных і грамадскіх арганізацый. У чэрвені гэтыя органы ўлады у «клубе 50-ці» прадстаўлялі адпаведна 20, 8, 10 і 12 палітыкаў. Такім чынам, на алімпе ўлады за месяц крыху скарацілася прадстаўніцтва Вярхоўнага Савета і, наадварот, узмацніліся пазіцыі Адміністрацыі Прэзідэнта (гл. табліцу 4).

Ліпеньскі спіс 50 вядучых палітыкаў Украіны даволі прыметна адрозніваўся ад папярэдніх. Найбольш істотныя змены адбыліся ў верхняй частцы спіса. Упершыню за час нашага даследавання (г. зн. з сакавіка 1996 г.) на першае месца ў спісе найбольш уплывовых палітыкаў выйшаў прэм'ер-міністр Украіны, апярэдзіўшы Прэзідэнта, — праўда, усяго на 0,11 бала.

**У спрэчках, як вядома, нараджаецца ісціна. Таму дыскусію, якая пачалася вакол экспертнага апытання «50 палітыкаў» у газетах «Имя» і «Советская Белоруссия», можна толькі вітаць. Больш таго, на рэдкалегіі «Независимой газеты» ўжо ставілася пытанне, чаму рэгулярная публікацыя спіса 50 вядучых беларускіх палітыкаў, адразу ў некалькіх газетах, не выклікае ў прэсе дыскусій і нават крытыкі.**

Усім удзельнікам гэтага абмеркавання можна толькі пажадаць, каб яно вялося на высокім тэарэтычным і этычным узроўні і не зводзілася толькі да пошуку «дурняў». Можна прыняць за аксіёму, што іх няма ні сярод аўтараў методыкі, ні сярод экспертаў. Кіраўнік службы вывучэння грамадскай думкі «Vox populi» — прафесар Грушын, сацыёлаг з сусветным імем, а эксперты — далёка не апошнія людзі ў беларускай журналістыцы і паліталогіі.

Відаць, неабходна адразу растлумачыць чытачам і крытыкам рэйтынгу «50 палітыкаў» розніцу паміж трыма метадамі збору інфармацыі: масавым сацыялагічным апытаннем, даследаваннем элітных груп і экспертнымі ацэнкамі. Масавыя апытанні праводзяцца для вывучэння думкі ўсяго насельніцтва ці істотнай яго часткі. У Беларусі агульнанацыянальная выбарка звычайна ўключае каля тысячы апытаных. Даследаванні элітных груп канцэнтруюць сваю ўвагу на самай уплывовай і кваліфікаванай частцы насельніцтва (вучоныя, дзеячы культуры, палітыкі, дырэктары, прадпрымальнікі і г. д.). Тут выбарка звычайна складае 200—500 рэспандэнтаў. У Беларусі такімі даследаваннямі даволі пасняхова займаецца лабараторыя А. Вардамацкага. Экспертныя ацэнкі прымяняюцца ў тых выпадках, калі ўзнікае неабходнасць, каб дзейнасць чалавека, групы людзей ці якую-небудзь падзею прааналізавалі спецыялісты вышэйшай кваліфікацыі. Тут якасныя крытэрыі адыходзяць на задні план, а галоўным становяцца патрабаванні да інфармаванасці і кваліфікацыі экспертаў. Таму, напрыклад, масавыя сацыялагічныя апытанні праводзяцца ананімна, а пры экспертных ацэнках звычайна публікуюцца прозвішчы экспертаў.

У Расіі штомесячныя спісы вядучых палітыкаў, на аснове экспертных апытанняў, складаюцца ўжо амаль чатыры гады і там эксперыментальна ўстаноўлена, што для атрымання ўстойлівых вынікаў неабходна прыцягнуць да работы як мінімум 30 экспертаў. Звычайна калектыў экспертаў фарміруецца з двайным «запасам трываласці» і складаецца з 60 чалавек, а канчатковая колькасць удзельнікаў штомесячнага апытання залежыць ад шэрага знешніх фактараў: камандзіроўкі, летнія адпачынкі і г.д.

Калі шукаць аналогіі з іншымі сферамі дзейнасці, то экспертнае апытанне «50 палітыкаў» можна параўнаць з сістэмай судзейства ў некаторых відах спорту з суб'ектыўнай ацэнкай вынікаў (спартыўная і мастацкая гімнастыка, скачкі ў ваду, фігурнае катанне і г. д.). Гэта сістэма далёкая ад дасканаласці, але нічога лепшага чалавецтва пакуль не прыдумала. Напрыклад, у фігурным катанні лёс залатых алімпійскіх медалёў вырашае калегія з 10 суддзяў. Пры гэтым дзве крайнія думкі адкідваюцца і ўлічваюцца толькі восем ацэнак. Калі колькасць суддзяў у фігурным катанні будзе павялічана да 300, то якасць іх работы прыметна знізіцца, таму што думка спецыялістаў сусветнага класа будзе змазана ацэнкамі больш нізкай кваліфікацыі. Такі ж адмоўны эфект адбудзецца і ў тым выпадку, калі судзейскую брыгаду «ўзмацніць» спецыялістамі з сумежных сфер дзейнасці (бальных танцаў, харэаграфіі, мастацкай эстэтыкі і інш.), бо яны будуць ацэньваць не фігурнае катанне, а толькі яго асобныя элементы. Па гэтай прычыне і да ацэнкі дзейнасці палітыкаў некарэктна прыцягваць прадстаўнікоў такіх элітных груп, як прадпрымальнікі, дырэктары, дзеячы культуры і нават большасць работнікаў сродкаў масавай інфармацыі. Вядучыя палітыкі, уключаючы кіраўнікоў цэнтральных міністэрстваў і ведамстваў, таксама не могуць ацэньваць самі сябе. Таму калі эксперты прапануюць уключыць у спіс палітыкаў каго-небудзь са сваіх калег (У. Бельскі, П. Якубовіч, А. Майсеня), то яны ўжо не ўдзельнічаюць у далейшых апытаннях. Эксперты, як справядліва заўважыў А. Панькоўскі, павінны ўскосна ўплываць на прыняцце розных палітычных рашэнняў (і быць вельмі добра аб іх інфармаванымі), але не прымаць у гэтым працэсе ўдзелу. Усім гэтым патрабаванням адпавядаюць галоўныя рэдактары і палітычныя аглядальнікі цэнтральных сродкаў масавай інфармацыі і вядучыя палітолагі. Ёсць яшчэ адна група спецыялістаў, якая магла б істотна ўзмацніць ацэнку дзейнасці вядучых палітыкаў. Гэта кіраўнікі і аналітыкі спецслужбаў. Але гэтыя эксперты звычайна не выстаўляюць тэхналогіі сваёй аналітычнай дзейнасці на ўсеагульнае абмеркаванне.

У крытычных артыкулах у газетах «Имя» і «Советская Белоруссия» многа ўвагі ўдзяляецца абмеркаванню і параўнанню месцаў, занятых у ходзе ліпеньскага экспертнага апытання рознымі беларускімі палітыкамі. Да гэтай дыскусіі, відаць, трэба вярнуцца пасля таго, як прыкладна на працягу месяца будуць апублікаваны даныя аб падагульняючым рэйтынгу за першае паўгоддзе і аб асноўных тэндэнцыях фарміравання палітычнай эліты Расіі, Беларусі і Украіны. Усяго можна налічыць прыкладна 25 агульных для гэтых краін вышэйшых дзяржаўных пасад, уладальнікі якіх адразу трапляюць у спіс вядучых палітыкаў. Кожная краіна мае свае цікавыя палітычныя асаблівасці. Гэтыя публікацыі адразу знімуць цэлы пласт пытанняў тыпу: «Чаму Іваноў стаіць наперадзе Пятрова?» ці «Куды вы дзелі Сідарава?» і дапамогуць вызначыць рэальныя, а не ўяўныя памылкі экспертаў.

Мы просім прабачэння ў чытачоў, што з-за неабходнасці даць адказ на выказаныя ў прэсе крытычныя заўвагі былі вымушаны затрымаць публікацыю ліпеньскіх матэрыялаў.

**Міхаіл ПЕТРАЧОЎ,**
**Аляксандр КІНСБУРСКІ.**




### КАЛІ ПРЫ РАМОНЦЕ ВЫЦЯКАЕ ВАДКАСЦЬ З ГІДРАПРЫВОДАЎ

На аўтамабілях «Жыгулі» і «Масквіч» пры рамонце тармазной сістэмы ці счаплення звычайна тармазная вадкасць выцякае, і ў сістэму трапляе паветра. Каб гэтага не здарылася, дастаткова шчыльна закрыць адтуліну ў накрыўцы напаўняльнага бачка ліпкай стужкай, пластылінам і г.д.

Калі накрыўка бачка тармазной сістэмы мае вывады для падключэння провада, замест яе можна паставіць накрыўку бачка счаплення.

Пасля заканчэння работы трэба ачысціць дзірку накрыўкі. Як правіла, прапампоўваць сістэму пасля гэтага не трэба.

### ПАКРЫЦЦЁ ДЫСКАЎ КОЛАЎ

Пакрыццё дыскаў колаў легкавых аўтамабіляў, на жаль, хутка зношваецца, асабліва калі аўтамабіль эксплуатуецца ў зімовых умовах. Афарбоўка дыскаў звычайнымі эмалямі недаўгавечная, апрача таго, для гэтага патрабуецца вельмі добрая падрыхтоўка паверхні.

Для афарбоўкі лепш выкарыстоўваць эпаксідны клей з дабаўленнем алюмініевага парашку.

Перад афарбоўкай дастаткова счысціць з дыскаў фарбу, якая пачала адслойвацца, і знішчыць сляды карозіі, а затым абястлусціць паверхню. Прыгатаваны састаў можна нанесці тампонам ці пэндзлем, але паверхня пры гэтым атрымаецца недастаткова роўная.

Мэтазгодна развесці састаў растваральнікам да такой кансістэнцыі, каб можна было карыстацца пульверызатарам. У гэтым выпадку якасць пакрыцця дыскаў значна палепшыцца.

Замест алюмініевага парашку можна выкарыстоўваць алюмініевую «сярэбраную» фарбу.

### ЗАХОЎВАННЕ КАМЕР

Камеры для шын аўтамабіля вельмі зручна захоўваць пад столлю 1 слаба напампаванымі, размешчанымі на рэйцы 4, як паказана на малюнку.







Кольца 3 зроблена са старой камеры.

### ПАЛЯПШАЕМ РАБОТУ ШКЛОАЧЫШЧАЛЬНІКА

Калі шчотка шклоачышчальніка стала сярэдняй сваёй часткай дрэнна счышчаць бруд ці ваду, пастаўце ў гэтым месцы спружыну, як паказана на малюнку.



Такая шчотка можа спраўна працаваць некалькі гадоў.

### КАБ ЗАХАВАЦЬ ЗАМОК

Для таго, каб навясны замок у гаражы нельга было зламаць ці адкрыць, уставіўшы паміж корпусам і дужкай ломік, надзеньце на яе некалькі адслужыўшых падшыпнікаў, як паказана на малюнку.



## ВІНШАВАННІ

*Віншую з днём нараджэння нявестку Алену Сяргееўну БАТУРАВУ. Жадаю моцнага здароўя, радасці і сямейнага шчасця.*

**Свякроў,** *г. Вілейка.*

Віншуем з юбілеем Валянціну Янаўну і Антона Міхайлавіча КІСЯЛЕЎСКІХ з в. Ліхачы, што на Гродзеншчыне. Любім Вас.

**Дзеці.**

*Сардэчна віншуем з днём нараджэння Таццяну Міхайлаўну КАНАВАЛЬЧЫК. Жадаем здароўя, шчасця і доўгіх гадоў жыцця.*

**Дачка і муж,** *в. Гірмантаўцы.*

Шаноўны Аляксандр Іванавіч ЛАЎРЫНОВІЧ! Віншуем цябе з 21-й гадавінай з'яўлення на свет.

**Аляксей, Ілья, Мікола.**

*Дарагога дзядулю, Генадзя Мікалаевіча віншуем з днём нараджэння. Жадаем моцнага здароўя і сямейнага шчасця.*

**Унучка Іначка і дачка Ала.**

Віншуем з днём нараджэння Марыну Паплёўка. Жадаем здароўя, вясёлага, шчаслівага дзяцінства.

**Мама, тата і брат Ігар, г. Жодзіна.**

*Дарагія Уладзімір Мікалаевіч і Валянціна Мікалаеўна! Віншуем Вас з 18-годдзем сумеснага жыцця.*

**Дзеці, п. Дзітва Лідскага раёна.**

Віншуем з 40-годдзем Яўгена Аляксеевіча Гардзейчыка. Жадаем моцнага здароўя, поспехаў у працы, доўгіх шчаслівых гадоў жыцця.

**Жонка Таццяна, сыны Віталій і Аляксандр, г. Івацэвічы.**

*Сардэчна віншуем Міхаіла Ліпскага (в. Спорава) з днём нараджэння. Жадаем яму ўсяго самага найлепшага: шчасця, здароўя, радасці.*

**Сем'і Купцэвічаў, Філіновічаў, Брэзіных.**



# ... Што здарылася, Ігнат Цімафеевіч? Скажыце сваю праўду. Як жа далей жыць?

**Калі сустракаю сталага веку чалавека, заўсёды цягне пагутарыць з ім. Яны — сівагаловыя старыя — мераюць сённяшні час меркай дакладнай, гарцам адмысловым, у якім ніводная кропля памяці не губляецца. З такіх памятлівых, здольных да выразнага асэнсавання часу і Ігнат Цімафеевіч Дуброўскі. 4 верасня яму спаўняецца 90 гадоў. Што пройдзена-пражыта за многія і многія дзесяцігоддзі? Энцыклапедыі называюць Дуброўскага празаікам, нарысістам, вучоным. Яшчэ ў 1937 годзе абараніў ён дысертацыю на годнасць кандыдата сельскагаспадарчых навук. Выдаў звыш 10 навуковых працаў.**

**У публіцыстычных творах (а яны таксама склалі болей як 10 кніг Ігната Дуброўскага — пра людзей зямлі, пра калгасных старшынь, а сёння вось яны і калгасы — на ладан дыхаюць. Дык што можа, што значыць слова? З гэтага і пачалася наша размова з Ігнатам Цімафеевічам ДУБРОЎСКІМ.**



**— Быў час, была эпоха, калі ці не кожны год вы асабіста выступалі ў друку з нарысамі — двума, трыма, а то і болей... Пра вёску пісалі і іншыя. Часам — грунтоўна, сур'ёзна, адкрыта, наколькі дазваляў той час. Што здарылася — амаль знікла аграрная публіцыстыка? І гэта тады, калі паболела шанцаў выказаць праўду, калі павялічылася надзея на дзейснасць слова...**

— Росквіт публіцыстыка атрымала на Беларусі ў шасцідзесятыя — васьмідзесятыя гады. І гэта была не толькі сага ў падтрымку існуючай сістэмы, але ж і вострая крытыка многіх недахопаў.

**— Няўжо нешта ўдавалася сказаць адкрыта?**

— Часам удавалася. Але ж, вядома, з вялікай цяжкасцю. Бывала, прыносім у салідны часопіс нарыс, а рэдактар: ужо шэсцьдзесят гадоў савецкай уладзе, а ты ўсё недахопы шукаеш. Але памятаю і іншае. Праходзіў неяк пленум пісьменніцкай арганізацыі па публіцыстыцы. Мерапрыемства насіла ўсесаюзны характар. Адусюль з'ехаліся госці. Асноўны даклад рабіў Чыгрынаў (тады — сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў). А Танк папрасіў мяне выступіць фундаментальна. Я паставіў пытанне: што ў нас сацыялістычнага, а што несацыялістычнага. Аўдыторыя прыняла добра, а там, наверсе, не спадабалася.

**— Відаць, вы ўзгадалі сямідзесятыя гады. Дык сапраўды, што ж было ў нас тады сацыялістычнага, а што — не сацыялістычнага?..**

— Тады я меў на ўвазе калгасы. Яны не з'яўляліся завершанымі сацыялістычнымі гаспадаркамі. Яны не мелі самастойнасці, а былі для дзяржавы крыніцай атрымання сродкаў — фінансавых, людскіх, матэрыяльных. Вы не памятаеце адно з інтэрв'ю Строева часоў перабудовы? Сакратар ЦК КПСС назваў калгасы прыгоннымі гаспадаркамі. Хіба ж не цвярозы погляд на рэчаіснасць? І я быў перакананы, што несацыялістычнасць калгасаў — у адсутнасці вытворчай дэмакратыі. Каманды ж аддавалі не толькі з беларускай сталіцы, але і з Масквы.

**— Ігнат Цімафеевіч, атрымліваецца, што спакваля мы пераходзім у сферу ідэалогіі.**

— Ідэалогія ідэалогіяй, а ёсць жа яшчэ мараль. Мы можам быць з вамі розных поглядаў, але мараль роўная для ўсіх. Нельга красці, нельга гвалтаваць чалавека...

**— Амаральнасці якраз сёння і хапае. І ў зносінах паміж людзьмі. І ў вытворчай сферы. І нават у адносінах да зямлі.**

— А заўважаюць жа толькі яе — амаральнасць — у палітыцы. Жыццё ўвогуле хвалюе старых і маладых публіцыстаў у меншай ступені.

**— З вышыні вашага навуковага, публіцыстычнага, жыццёвага вопыту, відавочна, сённяшняя сітуацыя ў сельскай гаспадарцы як быццам на далоні.**

— Наўрад ці падаецца арыгінальнай мая ўласная і, магчыма, суб'ектыўная ацэнка. Сельская гаспадарка Беларусі знаходзіцца ў глыбокім эканамічным крызісе. Выхаду з яго пакуль не бачна. Зніжаецца вытворчасць прадукцыі. Не аднаўляецца тэхніка, якая зношваецца, выбывае са строю. У выніку вытворчасць сельскагаспадарчай прадукцыі, харчовая прамысловасць скарацілася на 39 працэнтаў. Лічба не толькі ўражвае, а бянтэжыць.

Прычынай заняпаду з'яўляецца і разрыў вытворчых сувязей.

**— Выходзіць, што ў незалежнасці ёсць яшчэ адна цана — разбурэнне, гібенне сельскай гаспадаркі?**

— Я так не сказаў бы. Але, думаю, важна ўлічваць і наступны момант. Шлях да незалежнасці, да палітычнай самастойнасці павінен быў бы спалучацца з разумным рэфарміраваннем формы зносінаў у эканоміцы. А паколькі так не здарылася... У параўнанні з 1990 годам цэны на сельскагаспадарчую тэхніку выраслі ў 22.667 разоў. На дызельнае паліва — ў 25.416 разоў. На збожжа цэны выраслі толькі ў 532 разы. Вось і параўноўвайце. Цэны на малако і ялавічыну выраслі ў 249 разоў. Якія тут могуць быць каментарыі!

Утварыўся дыспарытэт цэн, своеасаблівыя «нажніцы». І, трэба падкрэсліць, — досыць вострыя. Калгасы стрыгуць чыста, «пад нуль», што называецца. Толькі за 1994-ы і 9 месяцаў 1995 года калгасы і саўгасы не атрымалі ад дзяржавы ў выніку непарытэту цэн 21,4 трыльёна рублёў.

**— Ігнат Цімафеевіч, але ж далей як ісці, як выжыць селяніну?**

— Сёння модна крытыкаваць дзяржаву, кіраўнікоў. А я наадварот... Думаю, варта аддаць належнае і нашаму Прэзідэнту. Хаця б ужо за тое, што ён праяўляў клопат аб сельскай гаспадарцы, а найперш — за тое, што ён не даў заўзятым правым радыкалам разбурыць калгасы і саўгасы, дзякуючы якім мы сёння маем свой уласны хлеб.

Так, у час пасяўных кампаній дзяржава падтрымлівае сельскую гаспадарку крэдытнай грашовай дапамогай. Але ж грошы, выдадзеныя дзяржавай, — толькі нязначная частка той сумы, якую павінны выплаціць за здадзеную прадукцыю.

Балюча назіраць і некампетэнтнасць, з якой часам дзяржаўныя мужы выстаўляюць ацэнку сельскай гаспадарцы. Як прыклад — жаданне аднаго з кіраўнікоў аб'явіць калгасы, саўгасы банкрутамі. Правільна запярэчыў такому кіраўніку вучоны. Трэба, маўляў, яшчэ разабрацца, хто банкрут — калгас ці дзяржава, якая недаплачвае за прадукцыю. І вось што можна было пачуць з вуснаў кіраўніка: «Калі б банкруцтва датычылася дзяржаўнага прадпрыемства, тады можна было б разбірацца, хто вінаваты, а калгасы ж не з'яўляюцца дзяржаўнымі аб'ектамі...» То чаму ж тады, па якому праву дзяржава ўстанаўлівае дыктат у закупачных цэнах? Атрымліваецца, што выраблёнае калгаснікамі ім і не належыць. У такім разе калгасы апынуліся ў становішчы сапраўды прыгонніцкіх гаспадарак.

Часам, калі размова заходзіць пра парытэт цэн, то некаторыя самыя высокапастаўленыя кіраўнікі сцвярджаюць, што ён — парытэт — ужо дасягнуты. І спасылаюцца пры гэтым на тое, што цэны на сельскагаспадарчую прадукцыю ў нас вышэй, чым на Захадзе. Прабачце, але гэта смешная аргументацыя.

**— Відавочна, што вы з'яўляецеся прыхільнікам калгаснай сістэмы. А як жа быць з непрыбытковасцю гаспадарак?..**

— Чаму вы лічыце калгасы непрыбытковымі?

**— ???**

— Добра. Прывяду такі прыклад. Пасля смерці Сталіна праходзіла навукова-практычная канферэнцыя, прысвечаная сельскай гаспадарцы. Мне таксама давялося ўдзельнічаць. Калгасы тады таксама крытыкаваліся. Маўляў, рабочы клас пастаўляе магутную тэхніку. А на вёсцы не могуць яе эфектыўна выкарыстоўваць. У адказ выступіў дырэктар Інстытута эканомікі саюзнай Акадэміі навук. І ён заявіў: у нас няма непрыбытковых калгасаў і саўгасаў.

**— Набліжаецца рэферэндум. Сярод іншых мяркуецца на ім і пытанне аб прыватызацыі зямлі. Як на ваш погляд, змена формы ўласнасці можа паўплываць на стан спраў у аграпрамысловым комплексе?**

— І тут я не парадую вас радыкальнымі поглядамі, бо з'яўляюся рашучым праціўнікам перадачы зямлі ў прыватную ўласнасць, праціўнікам продажу-куплі зямлі. Лічу гэту з'яву амаральнай. Зямля, глеба нарадзіла і выгадавала чалавека. У чалавека ёсць дзве маці. Маці-зямля, экалагічная маці і родная маці — жанчына, этнічная маці. Абедзве яны па значэнню роўныя для чалавека. Маральным злачынствам з'яўляецца здрада Радзіме і здрада сваёй роднай маці. Амаральна і злачынна гандляваць сваёй роднай маці — як этнічнай, так і экалагічнай.

Маладыя вучоныя-эканамісты выступілі ў друку з заявай, што без прыватнай уласнасці на зямлю рыначную эканоміку нельга стварыць. Маладыя людзі не ведаюць мінулага нават сваіх блізкіх продкаў. У дваццатыя гады нашага стагоддзя, у перыяд НЭПа, не існавала прыватнай уласнасці на зямлю, а вось рынак быў. Ды такі, што дай нам Бог убачыць, дачакацца яго ў гэтым тысячагоддзі.

**— Ігнат Цімафеевіч, на вашых вачах праходзіла меліярацыя ці, хутчэй, — бяздумнае знішчэнне балот. Змянілася ваша стаўленне да меліярацыі ў апошні час?**

— Ведаеце, даказваць эвалюцыю поглядаў — справа няўдзячная, часам для многіх яна дзееца на мяжы з няшчырасцю. Таму лепей, калі зайшла размова пра меліярацыю, я падзялюся ўвогуле, сваімі поглядамі на праблему.

Змены ў экалогіі прымусілі нас іначай зірнуць на балоты. Ужо ўспомнілі пра тое, што яны збіраюць вільгаць, з'яўляюцца кандэнсатарамі сонечнага цяпла, якое аддаюць паветру, паляпшаюць клімат. І вось іншая, новая навука ўзнікла — балотаводства, вядзенне балотнай гаспадаркі без асушэння іх, у натуральным плане. Тут і пра ягады ўспомнілі, і пра лазу, і г. д. Узнікла нават пытанне аб аднаўленні асушаных балот.

**— Ігнат Цімафеевіч, прызнацца, у некаторай ступені і здзіўляюся — такі ў вас узрост, а даўні прадмет сваіх даследаванняў вы не пакідаеце. Пільна за ўсім сочыце...**

— Не ведаю, ці здзіўлю вас яшчэ ў большай ступені, калі скажу, што і пішу зараз. Але не так хутка, як раней, але ж пішу. Што мяне цікавіць як пісьменніка?..

Вучоныя сцвярджаюць, што праз 30—50 гадоў будуць вычарпаны ўсе прыродныя рэсурсы зямлі, у першую чаргу энергетычныя. Другая бяда — забруджванні навакольнага асяроддзя. У свеце шырока абмяркоўваюцца праблемы скарачэння насельніцтва Зямлі. Чым не прадмет для мастацкіх разваг?

І ці не галоўнае жаданне — паразважаць у мастацкім плане пра гістарычны лёс сялянства, якое карміла чалавецтва, а само вечна заставалася ў цяжкай, беспрасветнай беднасці...

**— Дай Вам Бог здароўя, няхай усе Вашы задумы здзейсняцца.**

— І мне зараз застаецца толькі ўзяць свечку, паставіць яе, запаліць, укленчыць перад ёй, узняўшы складзеныя далоні над схіленай галавой. І маліць Бога, каб ён прадоўжыў маё жыццё хаця б на дзесяць гадоў, каб мне спраўдзіць свае жаданні. Бог літасцівы, я веру, буду спадзявацца і старацца.

**Гутарыў Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

**Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400, Маскве — 365-16-44; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 91852. Індэкс 63850.
Зак. № 4744.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12